# Ад лідскіх муроў

Пётр Калбыка
Данута Бічэль
Вера Ляцецкая
Юры Карэйва
Дзяніс Летуноўскі
Віктар Бачароў
Іван Гушчынскі
Аркадзь Мігдал
Юля Гушчынская
Мікола Лазоўскі
Міхась Мельнік
Ян Чачот
Алесь Стадуб
Зміцер Шах
Уладзімір Васько
Валянцін Таўлай
Людміла Шот
Ганна Рэлікоўская
Ігар Воран

№ 5
г. Ліда
2001





**16 сакавіка 2001 года рэдактар газеты "Наша слова", рэдактар часопіса "Лідскі летапісец", заснавальнік і выдавец часопіса "Ад лідскіх муроў"**

## паэт Станіслаў Суднік

прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў

*Пад цяжарам бед і нягодаў*
*Гібеў той гаротны народ,*
*З малітвай пра долю-свабоду*
*Чакаў ён месіі што год.*

*А Бог быў заняты, як звыкла,*
*Дзе б Ён там месію шукаў,*
*Ды вера людзей каб не знікла,*
*Паэта ўзамен ім паслаў.*

*Паэт жа не ведаў пра гэта,*
*Што ён меў ад Бога казаць,*
*Паэт, ён здаваўся паэтам,*
*І месіі ў ім не здалелі пазнаць.*

*Станіслаў Суднік.*




# Ад лідскіх муроў

*Літаратурна-мастацкі часопіс*

***№ 1 /5***

**г. Ліда**

**2001**

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі
Беларусь па друку

## ПАСВЕДЧАННЕ

### АБ РЭГІСТРАЦЫІ ПЕРЫЯДЫЧНАГА ВЫДАННЯ

№ *1542*

**Назва** *«Ад лідскіх муроў»*

**Від перыядычнага выдання** *часопіс*

**Мова (ы)** *руская, беларуская*

**Месцазнаходжанне перыядычнага выдання** *вул. Зарэчная, 5-17 231300, г. Ліда*

**Тэрыторыя распаўсюджвання** *г.Ліда, Лідскі р-н, раёны Гарадзенскай вобласці*

**Заснавальнік** *Суднік Станіслаў Вацлававіч*


**Ад лідскіх муроў**

*Заснавальнік і выдавец*
**Станіслаў Суднік**
*Рэдактар:*
**Юры Карэйва**
*Адрас рэдакцыі:*
г.Ліда, вул. Зарэчная д. 5, кв 17.
*Наклад:*
500 асобнікаў
*Выданне здзейснена пры дапамозе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»*

*Надрукавана на абсталяванні часопіса "Лідскі летапісец"*

*Кампутарны дызайн:*
**Наталлі Цвіркун**
**Артура Ганько**
*Кампутарны набор:*
**Наталлі Цвіркун**
*Макетаванне (дызайн):*
**Юрыя Карэйвы**






## Пётр Калбыка

***Цяпер перад вамі з душы***
***хваляваннем***
***стаю й выяўляю***
***сардэчны свой***
***жар,***
***і кожны мой водклік***
***вам повен***
***каханнем,***
***бо вас паважае і***
***любіць пясняр.***

## Менск – сталіца майго краю

Спелым збожжам звоняць ланы,
льюцца радасці званы.
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Ты, як зорка ў небе цёмным,
мілым светам вабіш душу!
Ты квітнееш, мы не згінем,
пераможам мора, сушу...

Беларусам я названы,
Беларусі мы сыны,
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Доўга край наш быў стаптаны,
кроў пілі з нас груганы,
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Перасціхнуў боль і раны,
з рук нам спалі кайданы.
Менск радзімы, Менск каханы,
сэрца нашай стараны!

Ты, як зорка ў небе цёмным,
сваім светам вабіш душу.
Ты квітнееш, мы ня згінем,
пераможам мора, сушу!

Сёння шчасця дужа маю,
новых злыдняў не страшусь!
Менск – сталіца майго краю,
край мой родны – Беларусь!






## На дзень імянінаў Спадару Дзямідаву

(акруговаму інспектару ў Лідзе)

У гэты цудны, зімні час,
пад небам роднае краіны
наш семінарны III клас
ўстрачае Вашы імяніны.

З глыбінь душы ў саду душы,
вам поўныя кахання
прыносяць ў дар для Вас,
Спадар,
сардэчны пажаданні.

У гэты дзень так дарагі
рады за волю змагароў,
узняўшы радасці сцягі,
Вам жыць жадаюць сто гадоў!

Ў красе жыцця - для Вас дзіця
праменіць шчасцем воблік,
бо толькі Вы сабе знайшлі
ў ягоным сэрцы водклік.

І гэтых мілых дзетак рой,
што кожна ранне ў школу йдзе,
Вам кожна з іх ў душы сваёй
падзяку шчырую нясе.

І кожны з нас у гэты час
сардэчна просіць Бога,
каб Ваш прамень і ўноч,
і ўдзень
паказваў нам дарогу.

Бо Вы, як месяц паміж зор,
што светам цудным залаціцца
і рассвятляе той прастор,
дзе цемень вечная таіцца.

Ў віру награнуўшых часоў
хай зззяе нам Ваш цудны свет!
Вам жыць жадае сто гадоў
у гэты дзень юнак-паэт!

## Успаміны

О, годы шчаслівыя!
Юныя годы!
Пакінулі мілы вы мне ўспамін.
У лонах праўдзіва
ўрочай прыроды
правёў я раскошна
прабегі часін.
О, вёска кахана,
дзе хата мне родна
стаіць між кудравых
і сумных бяроз,
з табой не разлучыць
нас сіла ніводна,
бо я там радзіўся,
вучыўся і рос.
Ўсе тыя куточкі і гаік урочы,
квяцісты лужочак
над ціхай ракой,
цяпер я спакойна
заплюшчыўшы вочы
ўсё гэтае бачу
жывым прад сабой.




## Пётр Калбыка

Як ўспомню мінула,
дык з жаласці плачу,
І быццам я чую
тых птушачак хор.

О там я пазнаў свайго
шчасця праменні
мне Муза прыслала свой
скромненькі дар.

Ці чуеш? О брат мой,
мае ўсе адозвы,
мае усе ўчуцця ў гэты вось час.
З табой шчэ нядаўна
гараў тыя нівы,
цяпер промень шчасця
зацьміўся, пагас
О пробліскі шчасця,
ніякай заганай
я вас не прыкрыю
ўжо сёняшнім днём.

Як ўзоры дзяўчыны,
так мною каханай,
што сэрца праменіць
кахання агнём.
Пакінуў я вёску, радзімую хату,
пакінуў дзяцінства,
шчырэйшых сяброў,
той мілы куточак,
фалісты, узняты,
зялёныя нівы і пасмы лугоў.
О, Шчучын далёкі!
Глухі і пануры,
як сумна і сонна ў прасторы
глядзіш.
Шчэ душу ўцяшаюць
мне школьныя муры,
ў якія штораніцы
з сшыткам ляціш.
І разам з сябрамі
ў цесным з'яднанні
за школьнаю лаўкай
спакойна сядзіш,
а ўсё ж адчуваю
ў душы парыванні,
каб зноў завітаць у вясковую ціш.
У вёсцы мне роднай
чулейшыя гукі,
пад дзіўную песню
і свіст салаўя,
ніколі не чую там суму і скукі,
для вёскі і толькі народжаны я.
А сёння, о, Муза!
Прышлі мне натхненне
раскрый прада мною паэзіі свет.
Мо хто, праслухаўшы
мае ўсе тварэнні,
з усмешкаю скажа:
"Ён будзе паэт".
Цяпер перад вамі
з душы хваляваннем
стаю й выяўляю
сардэчны свой жар,
і кожны мой водклік
вам повен каханнем,
бо вас паважае
і любіць пясняр.



***Над маёй канапай партрэт паэта Мацея Юзафа. З тых самых продкаў Малой, з Кановічаў. Душа яго ў вечным святле і заўсёды каля мяне. Навучыў мяне не паддавацца смутку. У снах каляровых лётаў. Там мы і сустракаемся - у снах каляровых, высока, у лёце. А Малая і не ў сне можа паляцець.***

**Данута Бічэль**

## Малая

Утрымацца на працы ў школе Малой не ўдалося – нязручная, бездапаможная, лішняя. У райАНА прапанавалі Малой узяць надомнікаў – такіх самых, як і яна, нікому не патрэбных, малых. Вучыла іх чытаць, пісаць і маліцца. Прыводзіла іх за руку ў касцёл. Хто мог хадзіць.

Але чыноўнікам спатрэбілася больш заробкаў. Яны адабралі ў бяспраўных гадзіны, а сказалі, што тыя маюць дрэнныя водгукі.

Малая стала на ўлік у цэнтры па беспрацоўю. Кожны аўторак ёй даюць спіс месцаў працы, але тыя месцы ўжо занятыя. Была ў тым спісе нават аб'ява, што набіраюць загортваць цукеркі! Па аб'явах у газетах усе месцы займаюць раней, чым тыя газеты выходзяць. Таму што аб'явы спачатку складваюць, заадно чытаюць, а пасля змяшчаюць у газетах.

У інтэрнаце будаўнікоў у пакоі на дваіх стаіць яе дзіцячы ложак. Суседка б'е Малую і абяцае забіць, каб вызваліць пакой сабе адной.

- Я памру ў ложку, - кажа Малая.





У ложку яна ляжыць, калі ад голаду баліць жывот. А так Малая заўсёды ў касцёле. Касцельныя мышы прыносяць ёй крыху ежы. Свядомыя касцельныя пані кажуць:

- Гэта ж не кацяня. Гэта ж прыніжае яе чалавечую годнасць.

Малая не паддаецца смутку:

- Можа я адводжу ад некага бяду...

Запрашаю яе папалуднаваць. Прыходзіць, калі я вызначаю дакладны дзень і гадзіну. Прыручыць Малую, адказваць за яе лёс, не маю сілы. Наша вёска ў ліхія дні апекавалася бежанцамі, пагарэльцамі і, нават, акружэнцамі. Я - не вёска, гэта я ўжо ведаю. Малая прагаварылася, што яе мама выпівала. Мамы ўжо няма.

У першым класе настаўнік звазіў Малую на ровары ў Зэльву. Невядомая сіла прывяла яе на падворак перад царквой. На двары стаяла жанчына ў такой жа сукенцы, якая ёсць у мамы. “Мама, а што ты тут робіш?” Але голас быў не падобны да мамінага. “Можа я твая духоўная мама?” – спытала паэтка. Так Малая ўпершыню ўбачыла вялікую Паэтку.

Што такое “духоўная мама”, яе мама, не ведала, але спалохалася... і болей у Зэльву яе не пускала.

У трэцім класе настаўнік пасадзіў яе ў карзінку, як кацяня, украў і завёз на ровары ў інтэрнат. Яе прымушалі падпісаць адмаўленне ад мамы. Малая плакала, але не падпісала. Не адраклася.

У шостым класе яна вучылася ў інтэрнаце, які быў яшчэ далей ад мамы. Яе білі большыя дзеці. Мама купіла ёй сапраўдны гадзіннік. Колькі часу, яна разбірацца не ўмела. Адна дзяўчынка з інтэрнату адбірала той гадзіннік, аж выкруціла ёй палец. Малая ўцякла.

У сёмым класе вучылася ў школе без дакументаў аб сканчэнні шостага. Марыла маляваць абразы. Скончыла філалагічны і нядзельны катахетычны...

Перад Усімі Святымі на досвітку з’явілася ў яе сон прабабуля Касінія Кананові, з вёскі Вішнеўка, уся ў белым. Касініі было 20 гадоў, яна памерла ў 1863 годзе ад смяротнай раны ад расейскага салдата ў плячо, у сутычцы за Зэльвенскую капліцу, якую ратавала ад пажару. Дамініканка ў трэцім законе. Касінія сказала, каб Малая зрабіла парадак у пакоі Апякункі. Апякунку выгнала з яе кватэры пляменніца. Апякунка аддае пенсію за цесны пакой недалёка ад касцёла, падбірае на пляцы перад касцёлам пустыя бутэлькі. Малая носіць іх у краму.

Касінія сказала, каб Малая брала ў Апякункі толькі на батон і малако. У Малой ёсць касцельныя сяброўкі, касцельны дзядуля апавядае, як ад хворага ксяндза, якога называе "Мой Анёл", забрала на сябе яго хваробу – кладзе рукі на падбітае вочка майго коціка і коцік не ўцякае – ранка засыхае.

Летам за абеды малая вартавала брыгітак. Каля яе збіраліся душы. Манашка нясла на працягнутых руках гаршчок, які дыміўся. Спускалася ў скляпенне, Малая ішла за ёй. Манашка працякала праз металічныя краты ў цемру.

Мужчына ў мундыры, у канфедэратцы, казаў Малой, што ён брат Юзафа Пілсудскага, а Малая і не ведае, хто гэта.

- Ты такая малая?-- Спытай у Эльзы Ажэшкі, яны добрыя знаёмыя.

- Але ж Эльза даўно там.

- Там? А я яе не сустракаў.

Часта галасы водзяць Малую па наваколлях.

У Малой няма грошай на памінальную імшу па продках. У мяне грошай не бярэ. Кажа: "За твае грошы бы адпусціць грахі тваім продкам. За грахі маіх продкаў мушу плаціць сваімі заробкамі". Прапаную ёй зарабіць у мяне. Работы дома шмат, ды ёй мая работа не падыходзіць.

Над маёй канапай партрэт паэта Мацея Юзафа. З тых самых продкаў Малой, з Канановічаў. Душа яго ў вечным святле і заўсёды каля мяне. Навучыў мяне не паддавацца смутку. У снах каляровых лётаў. Там мы і сустракаемся - у снах каляровых, высока, у лёце. А Малая і не ў сне можа паляцець. Пакідае мне таямніцу: "28.11.97 г. набыла ад бабкі містычнае імя + S. в. Casinia з невідочным срэбным пярсцёнкам на правай руцэ. А 16.07.2000 ў 7.00 (у пятніцу) набыла імя ўласнае + сястра Юзафа Божай Апекі , схаванае ў фіялетавы колер без пярсцёнка, шкодна шмат чытаць і нельга ўжываць хімічных лекаў".

На абразку з ружай піша:"Маленькай Дануце са светлай усмешкай – дамініканская малеча, якой 5 гадоў..." Любіць у кожным убачыць малое. Робіць ружанцы з каляровых трасцінак ад дзіцячых пісталетаў – Вяночкі Ружаў. Сама ж адмаўляе ружанец найчасцейна на пальцах.

Такая Малая.

Мадонна на абразе цудатворным зусім маленькая на выгляд.



*Пакінуць вас не маю*
*сілы*
*і чую ціхі шэпат хваль:*
*"Мой родны кут! Як ты*
*мне*
*мілы,*
*як ты мне любы, родны*
*край!"*

## Вера Ляцецкая

### Мой славуты зямляк

Якуб Колас!.. Колькі ў двух гэтых словах велічы, мілагучнасці, радасці і смутку. Радасці ад таго, што ён жыў на нашай роднай зямлі для свайго народа, пісаў аб ім і для яго, быў вялікім педагогам, творы якога натхняюць наша сучаснае пакаленне на працоўныя подзвігі, вучаць любіць сваю Радзіму, родны край, той куток, дзе нарадзіўся і вырас. Сумна, што ён сёння не з намі. Колькі б цудоўных твораў ён яшчэ напісаў для свайго народа!

Якуб Колас – мой настаўнік, дарадца, зямляк. Дзякуючы яму, яго творам я стала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, з вялікім захапленнем, энтузіязмам працавала сорак гадоў на ніве народнай адукацыі.

Помню далёкія трыццатыя гады... Я тады вучылася ў Менскім польскім педтэхнікуме, які знаходзіўся па вуліцы Савецкай, 144. Мы часта запрашалі Канстанціна Міхайлавіча да нас на заняткі літаратурнага

гуртка, дзе ён нам дэкламаваў вершы. Ды як дэкламаваў! Усёй сваёй істотай, сэрцам. Але больш ён любіў слухаць нас, чым выступаць сам. Мы чыталі яму свае першыя літаратурныя творы. Ён уважліва слухаў нашы вершы, даваў мудрыя парады. Помню яго словы адносна літгурткоўцаў: "Вядома, што не ўсе вы станеце паэтамі, празаікамі, але я веру, што на ўсё жыццё палюбіце свой край, народ, яго мову і літаратуру".

Якуб Колас – мой зямляк. Я нарадзілася на Уздзеншчыне ў вёсцы Язвіны, што ў трох кіламетрах ад Мікалаеўшчыны. Я часта бываю ў родных мясцінах, часам сяджу на беразе Нёмана, слухаю гамонку дубоў, шэпт нёманскіх хваль, хаджу па тых лугавых, баравых сцежках, дзе калісьці хадзіў мой вялікі зямляк. Натхненне зноў прыходзіць да мяне:

*Вітаю Коласа мясціны,*
*туман над Нёманам, лясы,*
*і вас, грыбныя баравіны,*
*дзе зацвітаюць верасы.*

*Вітаю гнёзды буславыя,*
*над Нёманам, у сясняку,*
*дубы сівыя, векавыя*
*і гэту родную раку.*

*Вітаю белыя бярозы:*
*што шэпчуць з яварам,*
*вярбой,*
*і вас, наднёманскія лозы,*
*якімі захапляўся ён.*

*Вітаю сцежкі баравыя,*
*што Юзік з Кастусём*
*таптаў,*
*і вас, дарогі лугавыя,*
*якімі статак з поля гнаў.*

*Вітаю, ганаруся вамі,*
*зайздрошчу нават*
*моцна вам:*
*былі вы сведкамі, сябрамі,*
*вам Колас душу адкрываў.*

*Пакінуць вас не маю*
*сілы*
*і чую ціхі шэпат хваль:*
*"Мой родны кут!*
*Як ты мне*
*мілы,*
*як ты мне любы,*
*родны*
*край!"*




## З Новым 2001-ым!

Прывітанне табе, Новы год!,
Новы век і Тысячагоддзе!
Вельмі многа ў мінулым нягод
Тут было. Мы стаміліся. Годзе!

Трэба так распачаць
Новы век,
Каб жылі мы ў ім дружна
і ў славе,
Гаспадарыў каб наш чалавек
У сваёй – незалежнай дзяржаве.
31.12.2000 г.

## Аб узросце

Ў юнацтва залатой пары
(Не трэба мне ўсміхацца!),
Казала хлопцу: "Застары!",
Калі ён меў за дваццаць.

А расцвіла мая вясна –
Я ў дваццаць зразумела:
У дваццаць – самая краса,
А ў трыццаць… адзвінела.

Прайшло імкліва трыццаць год. –
І што з таго ўлавіла?
Дальбог, і ў трыццаць – веснаход,
Красы жыццёвай сіла!

А будзе сорак?.. Гэта ж – ах!
Канец! Пара на звалку!
- Хадзіць, напэўна ж, буду, жах!,
Абпёршыся на палку.

Як час бяжыць! Не ўняць яго.
Рыпяць гадоў рысоры.
І вось з календара майго
Смяецца лічба "сорак".

І што ж? Не, не! Не інвалід.
Узнёсла, з тым жа духам,
З люстэрачка майго глядзіць
Жанчына-маладуха.

Вось-вось паўсотня. Суне ў бок
Мне старасць свае вілы, -
Але не з ёю той парог
Я свой пераступіла!

Паглядваю ў люстэрка зноў
На чуб свой рэдкі сівы:
Ну й што!? Крыху сцішэла кроў.
Ды трошкі меней сілы…

Во ў шэсцьдзесят – занемагу,
Буду ляжаць на ложку;
Ні піць, ні есці не змагу;
І давядзецца "шмактаць шошку"…

Маргае лічба "шэсцьдзесят",
А я – нішто сабою!
І ў семдзесят яшчэ – на пяць!:
Не стаць мне качаргою!

## Праз трыццаць год

Пад промневаю
сонечнаю ўсмешкай
Такі бліскучы дожджык ля ракі!
Ізноў, праз трыццаць год,
пад школьнай стрэшкай
Вы з намі, нашы вучні-сябрукі!

Вось і спатканне, так яго чакалі!
Як я хвалююся,
бы першы зноў урок.



# Юры Карэйва

***Чую згукі***
***роднай мовы***
***ў звоне весняга***
***лісця,***
***светлы спеў ёй***
***жаўруковы***
***зычыць вечнага***
***жыцця.***

***Піць той спеў --***
***не наталіцца,***
***каб аж слёзы на***
***вачох***
***І, як мне,***
***з тае крыніцы***
***ўсім жывіцца,***
***дай вам Бог!***

* * *

Святла гаючага выток –
глыток
жывільнай ласкі
сонечнай...
Ёсць міг жыцця –
І ёсць радок,
адчайна просты,
сённяшні!

Ёсць гэты дзень –
мой дзень зямны!..
Мне лёсам ён
адведзены,
мне з ім –
ад звадаў
і маны
ісці
ў жыцця адведзіны!..

## Родная мова

Наплыла пяшчотай словаў
Ласка Божая ў душу, -
І святою
роднай мовай,
як ручай пасля дажджу,

адгукнулася й гамоне
ўсё ўва мне,
і стала зноў
хвалямі ў імклівым Нёмне,
лёгкім ветрыкам з палёў.




Чую згукі
роднай мовы
ў звоне весняга лісця,
светлы спеў ёй жаўрукова
зычыць вечнага жыцця.

Піць той спеў --
не наталіцца,
каб аж слёзы на вачох
І, як мне,
з тае крыніцы
ўсім жывіцца,
дай вам Бог!

**Белая кніга**

Белая кніга...
Няма ні радка
у гэтае
белага колеру
кніжцы.
Старонкі бяз словаў
гартае рука,
старонкі,
якія нікім не напішуцца...

Белая кніга...
Тут,
нібы ў сне –
белыя ўявы,
з-пад вокладкі белай
сцелецца белі
пялёсткавай снег
на позірк твой
стомаю белай
збалелы.

І заглыбляешся
ў белы абшар
мроіскаў белых:
за крэйду бялейшы
стаўся твой
беллю прасветлены
твар,
з вуснаў збялелых
зрываюцца вершы.

Толькі
тых вершаў
нібыта й няма:
ні белага свету,
ні белага квету,
толькі –
знямелае белі
зіма,
белай,
як здань
беляў гэтых
паэты...

Гэтакі белы
спакой
на душы!.. –
Белы таму,
што ён чысты
і вечны.
Белая кніга... –
ніколі не жыў
твой або нечы
ў ёй
боль чалавечы...

9.07.99 г.






* * *

Вярнуўся вецер у даліну,
цалуе выспелыя гронкі
у прыгажуні арабіны,
і вераб'іны гоман звонкі
ірвецца ў вырай, атуліла
пяшчота ўсё, што бачна воку:
і плынь заток – палон аблокаў,
і вербаў косы, што пахіла
спадаюць долу, дзе чароты
сум вечаровае самоты
на волкіх галавах гайдаюць,
дзе хвалі ціхенька спяваюць
заранiцы-зорцы калыханку,
калышучы яе да ранку,
хаця ж даўно заранка тая
спіць, спаць ёй –
покуль не растае
ў праменнях дня,
як засвітае.
Чаму сюды, я й сам не знаю,
як да якойсьці таямніцы,
усёй душой імкну заўсёды,
бы ў сне чароўным асалодным,
спыняюся ля гэтых ніцых
мясцінак дзіўных,
дзе – крыніца,
дзе плыняў ціхіх галашэнне...

Радзіма – сон, з якога быццам
няма ніколі абуджэння..
То ж трэба гэткаму прысніцца...

* * *

Нібы прачнуўся ты , ды зноў
былымі снамі агартае:
на вечныя кругі тых сноў
цябе бязлітасна вяртае.
Ды зварухне душу ўспамін –
і выбліснe праз попел прысак:
там час – з імгненняў і хвілін,
знаёмых да драбніц і рысак.
І раптам маміна рука
твае сляпыя сненні зніме:
кране руку – рука застыне
На дрогкіх літарах радка...

## Малітва да мамы

Маме маёй –
вітанне!..

Мама, мая
святая,

з Богам
і Матанькай Божай
поўная
ласкі гожай,
я да Цябе,
блаславёнай,
зноў дасылаю сёння
у неба начное
малітву.

Божай слязінкай
пралітаю –




знічкай
з Нябеснага Раю
ты на зямлю спазіраеш,
дзе, наскрозь болем пракуты
за гэты Край пакутны,

голас
мой
з горла
сцякае,
крывёю сцякае...
Святая

Мама мая,
памаліся,
Каб Усявышні
злітваўся:
смяротнай
самоты
часінаю
згінуць
не даў
Твайму сыну.

А калі згінуць мне,
Мама –
хай да Цябе прыйме.
Амэн.

31.12.98 г.

## Да мамы

Няспацьмеш вечным сном ты,
мама:
заўсёды ты – каля мяне,
й табе быць там, дзе я, таксама,
пакуль мой час зямны міне.

Пакуль не час – хаця б даць
шанец
мне, мама, Госпада ўпрасі
душы сваёй насмерць не зраніць,
калі трываць не стане сіл.

Як многа я зграшыў прад Богам...
Прасі, каб Ён мне дараваў
за тое, што не той дарогай
свой шлях пракляты скіраваў.

Я веру, Госпад не пакінуў
цябе, як твой аблудны сын,
што ў свеце злым без Бога гінуў
між апантаных духам злым.

... Вось бачыш, я вярнуўся, мама,
й заўсёды – ты каля мяне.
Табе быць там, дзе й я, таксама,
пакуль мой час зямны міне...

Восень, 1996 г.








## Дзяніс Летуноўскі

***Самнамбульны шлях,***

***мой знямогі,***

***Верона – аскепак веры,***

***Край, Богім дзе слёзна,***

***бы ўбогім,***

***Краіна, дзе ўскройваюць***

***вены.***

* * *

Нібыта й няма зімы,
ды ўсё адно халадно
ў канцох тваіх, бы ў сцяны
цэльсію зроду – ноль.
Без цеплыні не звяршыць,
не здолець пісаць, чытаць:
як Троіцы, тройча не жыць,
ды й часу два ў тройчы – за пяць.
Чай нават не ўцеха – мне
каб гарачэйшае штось,
холад не адапхнуць і не
змацаць пляча яго косць.
Сучча датлела, хто ж
ведаў, што трэба бярно.
Кашаль, застуда, то ж
дрэнь справы, ды ўсё адно!
Вокны, матыль начны,
смецяр, аж залішне п'яны,
Пыл з нагавіц – чым ні
кампанія: я і яны.
Вуліца, згасла святло...
Хто палітон падаваў?
Пра нас а ці ўспомніць хто?, -
сыходжу пад – у падвал.
Хутка а сёмай. Метро.
Ні сесці, ні змеціць на ўме,
атрамант не ўзяць, на пяро
не памаліцца, не...

26.05.99г.
*(пераклад -- 9.11.2000 г.)*




* * *

Ні верніцтва кус, ні акр Вероны,
ні нават ландшафт эшафотны:
то снег,
як сякера,
пад каркат вароны –
за карак...
Унасцеж вароты:
без палітычнае мапы – ні кроку,
з варот – толькі ўправа,
а йначай зноў ростань:
завева сагу складае
ўскрай змроку,
а ногі ўсё – проста і проста.

Ён першы, ён – студзень нянацкі,
нявінны, з павіннай, на плечы,
пад ногі Масквы
(за -) стольнай (кабацкай) –
снег першы й апошні
мой стрэчны.

Самнамбульны шлях,
мой знямогі,
Верона – аскепак веры,
Край, Богім дзе слёзна,
бы ўбогім,
Краіна, дзе ўскройваюць вены.

Ну што ж тут? –
Дзе біч, там і пернік,
свабоды няма і ў прыкмеце.
У велічню Неба цяпер б мне,
ды ў вулках – вунь...
бавяцца дзеці!

Мост, вулкі,
і сцены да дахаў,
Куцця, й ты бяздомнік
вальготны...
і дождж белы з жаху –
да захаду,
і снег да світанку – вільготны.

Люты 2000 г.
*(пераклад -- 8.11.2000 г.)*

* * *

У нябёсы гляджу з-пад рукі
на Шагала, шэдэўр яго.
Йму сабачую ролю, які
ўладара раптам страціў свайго.

Стаў пад слуп ліхтара. Тапчу
хлуд зямны, прасырэлы наскрозь,
па-над мной снег кружляе – хачу
бы ўтварыць з сябе
снежную вось.

Паралелі калеяў, трамвай
прочкі цягне вагонаў спіну;
што ў газетах? – Чытаю: трывай
й атрымай, як не ведаў, зіму.

Помніш, мы абяцалі, што не
зможам збегчы адгэтуль, і
ўсім нам, нібы ў адной труне,
кончым вынікам, злегчы ў зямлі.

Помніш, мы абяцалі кахаць
ды йсці пехам на вест або зюйд...
Цвік не здольны
ў сцяну ўвагнаць,
бо сцяна, то ж не крыж
й ты ж – не з юд.

1999 г.,
*(пераклад --9.11.2000 г.)*

* * *

Я над шэраю зоркай
самотна схіліўся ўва сне,
невядома нашто,
невядома адкуль мне з'явілася
дзівасць гэтай адчутай самоты
ў зямной валтузні –
і не хмараў гняўлівасць
й няміласць

цыгарэтнага дыму,
павіслага па-над сталом,
незварушнага,
быццам лісты ад цябе ў капэрце;
тэлефонавы звон раптам
зрушыў мярцвяны Садом
тут майго прабыцця
ды – не варта аб смерці...

Мо ўваскрошаны спеў салаўя,
ён адзін,
заглушацьме забойстваў матыў,
ён ж зглынае
нават воглас Гасподзень,
й што толку з гадзін,

з дзён імклівых над Цісай,
што з імі схлынае
ў агалеласцях мора з папер,
гэтых шэрых папер,
што з паметаю даты.
Мой шчасны ,бясцэнны
час, ніяк ты не збудзешся
злых ды сяброў, а цяпер
ты ніяк не прабудзіш да стрэлу
прыгожага ў цемя.

Працэс руху –
працэсія пешцаў
намосткам уздоўж;
адзіноты цягнік дзесь прагучвае
назвы прыпынкаў,
па-над кветнікам гэтым,
над мурывам траваў у дождж
хтосьці стансы
прыпомніць прыхрыпла.

Шмат калюж – хоць згадай:
дзе ж герой наш Мазай!
Слёзы з змоклай віёлі.
Мастак састарэлы...
Мейскі восеньскі парк
без арэляў –
мо ў рай
адляцелі: дзесь там іх сустрэлі...

01.09.1999 г.
*(пераклад - 9.11.2000 г.)*

**Пераклад з рускай мовы**
**Юрыя Карэйвы**







*Наталіцца прахалодай*
*І мацней зямлю любіць,*
*І лічыць за ўзнагароду –*
*Сынам тут*
*да скону жыць.*

## Віктар Бачароў

### Фотаздымак, што застаўся толькі ў памяці...

Як часта, святкуючы сваё знаходжанне на матулі-зямлі, альбо, інакш, жывучы на ёй, мы не ўсведамляем, што ўсё, з чым мы сутыкаемся, праз зусім кароткі час зыходзіць у гісторыю, і мы, нават не задумваючыся, можам быць сведкамі таго, як блізкае і звычайнае становіцца далёкім і вялікім.

Напярэдадні 70-годдзя Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча я перакапаў увесь свой літаратурны архіў з надзеяй знайсці менскі хатні адрас пісьменніка, напісаны яго рукою, але марна. Гэта быў адзіны доказ нашай сустрэчы. Хаця павінны быў быць яшчэ адзін...

80-я гады. Семінар маладых паэтаў і празаікаў у Горадні прайходзіў у абкаме камсамолу, размешчаным у будынку новага замка. Цудоўнае надвор'е. Нападалёк гістарычная Каложа. Унізе пад замкам бяжыць Нёман.





# *ГАСЦЁЎНЯ* — Віктар Бачароў

За сваё жыццё я пабываў на дзесятках такіх збораў. Шмат якія эпізоды сцерліся з памяці. Шмат якія зліліся ў адно цэлае. Так, напэўна, было б і з гэтым семінарам маладых пісьменнікаў, калі б "Хрыстос не прызямліўся ў Гародні", так, жартуючы, мы гаварылі пра прыезд да нас вельмі папулярнага і любімага ўсімі Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча.

Яго любілі, ім захапляліся, як паэты так і празаікі. Таму, што Уладзімір Сямёнавіч спалучаў у сабе абодва гэтыя таленты. Хаця, як я лічу, і ў прозе яго прасочваўся паэт. Паэт яркі і таленавіты, яскравая творчасць якога выдзяляецца шчымлівай рамантычнасцю і высокай грамадзянскай жарсцю, вобразнасцю і глыбокім сэнсам, кранальным лірызмам, філасофска-жыццёвымі развагамі, патрыятычнай і гуманістычнай скіраванасцю.

На той час я ўжо чытаў яго бліскучыя вершы: "Матчына душа", "Беларуская песня", "Гусі-лебедзі ў лугах зялёных" і шмат іншых. Быў знаёмы з усхваляванымі радкамі прозы "Каласы пад сярпом тваім", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". І вось такі вядомы і, як аказалася, такі просты чалавек з намі ў зале. І разам з яго прыходам зала напаўняецца жыццярадасным смехам, бадзёрымі жартамі. Яго ўсмешка дорыцца адразу ўсім прысутным. Ён абуджае да сябе ўсеагульную прыхільнасць. Гіпнатызуе сваёй энергіяй, прыцягвае ўвагу. Ён не ўнутры нашага кола, ён вакол нас. Пасля выступу Караткевіч запрашае ўсіх, хто будзе ў Менску, заходзіць у госці. Я карыстаюся момантам і прашу адрас пісьменніка. І ён размашыста чыркае яго ў мой нататнік, адначасова зачытвае яго ўслых і яшчэ раз запрашае ўсіх маладых пісьменнікаў, не сказаўшых яшчэ ніякага важкага слова ў літаратуры, да сябе ў хатнюю лабараторыю. Такі ён увесь, пісьменнік Уладзімір Караткевіч, які бязмежна любіў жыццё і ўсіх, хто жыве гэтым жыццём.

Пасля быў і той другі няўдалы доказ сустрэчы з ім. Уладзімір Сямёнавіч раскінуў свае рукі і, як нешта дарагое, што сімвалізуе жыццё, абняў нашых дзяўчат, пазіруючы фатографу "Гродзенскай праўды". Побач з дзяўчатамі стаў і я, радуючыся, што засвяціўся з самім Караткевічам...

Праз некалькі дзён я адкрыў "Гродзенскую праўду" і ўгледзеўся ў фатаграфію, што ілюстравала аповед пра наш семінар. На здымку быў Караткевіч, былі дзяўчаты. Не было толькі мяне...

Тады я моцна не расстроіўся ад "жарту" фатографа, але зараз, пасля добрага кавалку часу, калі паводле слоў С.Ясеніна "вялікае бачыцца здалёк", я вельмі шкадую пра той здымак, што застаўся толькі ў памяці...




## Сусед

Учора ж ён газету браў
З святочнаю паштоўкай,
Ў сваёй кватэры напяваў
Матыў вясёлы, звонкі.

Учора ж новую вясну
Вітаў каля альтанкі,
Дымок цыгаркі ў быль-вайну
Пускаўшы абаранкам.

Учора ж крочыў на парад
У гонар перамогі,
І ордэнскі бліскучы рад
Дзятву браў да знямогі.

І раптам сёння ў наш пад'езд,
Дзе яго крокі пелі,
Прыйшоў на развітанне лес
Сцяжынкай з лапак елак...

27-28 лістапада 2000 года.

* * *

Калі ласка, выкінь тло
І не дзьміся марна.
Й неба чыстае, як шкло.
Што ж табе так хмарна?

І ў душы ўсё неўпапад,
Ні-ку-ды не варта.
Я душы такой не рад,
Ды і ты не рада..
Які ж дожджык начапляў
Кропелек на вейкі?..
На калені я бы ўпаў,
Каб стаў лад хоць нейкі.

Пераклад-- 29.11.2000 г.

## У полі

Вабіць даль з ускрайку поля,
А блакітны парасон
Лье на роднае прыволле
Жаўруковы перазвон.

Светла ім, а мне свабодна.
Ім лунаць, а мне хадзіць.
Так і хочацца любоўна
Ўсе расінкі захапіць,

Наталіцца прахалодай
І мацней зямлю любіць,
І лічыць за ўзнагароду –
Сынам тут да скону жыць.

Пераклад-- 30.11.2000 г.

* * *

Лістапад. Лісталёт. Лістабой...
Можа, сталася нешта з табой?

Нечакана, нябачна, крадком
Гаркатой восень рынула ў дом.

Медным россыпам лісце звініць,
Па-асенняму сумна гарыць.

Вядзе з ветрам зноў
вечны свой бой
Лістапад. Лісталёт. Лістабой...

Тэлефонная трубка моўчыць.
У ёй гудкі, як машыны ўначы.

І сваім адзінокім гудком
Клічаш ты, бы хусцінкай-рукой...

Мабыць, лёс задыхаецца мой...
Лістапад. Лісталёт. Лістабой...

Ды бяду я дагнаць не паспеў,
Быццам гнаўся за тысячай стрэл.

І цяпер ля шпітальных палат
Абдымаю я белы халат...

Значыць, быць,
як раней, нам з табой...
Лістапад... Лісталёт... Лістабой...

*Пераклад-- 01.12.2000 г.*

* * *

За поўнач зімой я
Ацэньваў былое.
Яно вось такое
Пушкое й цяжкое.

Пакінуты снамі,
Ўсё зважыў і змераў
Сваімі рукамі
Няўмольным бязменам.

Трывожна ў адчаі
Навіслі, як хмары,
І ў сэрца крычалі
Няўцехамі мары.

І ўстаў я, разбіты
Высновай трывалай:
Як многа пражыта,
Як зроблена мала.

*Пераклад-- 02.12.2000 г.*

* * *

**(Леаніду Вінніку)**

Назалелае ўсё і прыкрае,
Хоць ты ў стрэмя --
й на ўцёкі наўскач…

Як акраец часу мне выкраіць?
Не хапае яго, хоць плач!

Дзе той час – нагадаць мінулае
Ды па будучыні пахадзіць.
І цябе мне, харошая, чулая,
Няма часу падсаладзіць.

Сівізны не бачу матулінай,
Каб сагрэць цеплынёй рукі.
І чаму стаў такі не чуйны я?
І ў каго я ўдаўся такі?

Дзе знайсці мне час,
каб ачысціцца –
З пакаяннем з'явіцца ў храм
І душой да нябёс узвысіцца…
Бляха-муха, няма часу нам!

Назалела ў крутні спружыніцца…
Горка збрыдзеў я сабе сам.
Нават часу няма каб спыніцца.
Ды такі шанц Бог дасць і нам…

*Пераклаў 04.12.2000 г.*

**Пераклад з рускай мовы**
**Пятра Макарэвіча.**






# Іван Гушчынскі

***Лёс надзяліў нас***

***гэтым казачным***

***светам,***

***назаўжды знепакоіў,***

***падарыў прыгажосць.***

***Зорка мая!***

***У вечар позняга лета***

***ты на зямлі,***

***хоць далёка, а ёсць.***

* * *

Вяртанне ў любы сэрцу край,
як ад чужых калючых ружаў.
Здароў, спавіты бэзам май!
Прывет, вясенні вецер дужы!

Вядзе дамоў страла шашы...
І ўжо звініць нязвонка чарка,
а ў стоеным кутку душы--
у хмару вырастае хмарка.

І здасцца раптам: не будзь там –
трава не вырасце зялёна,
і я спыніўся тут не сам,
а толькі цень пад гонкім клёнам.

Вяртанне ў любы сэрцу край,
як ад чужых калючых ружаў...
У душы--спавіты бэзам май,
Лістом матуліным абуджан.

## Дома

Ля сенцаў – мята кружыць галаву,
лянотнага ката стаміла лета,
і куры накупаліся ў пяску,
і пеўнем бойкім песня поўдню спета.

Заўсёды рады ў гэтай хаце мне
гурок і хлеб, святочная бутэлька.
тут беды шчыра так клялі мае –
святая не знасіла б іх зямелька.






## Лета. Ліпень. Нядзеля.

Лета. Ліпень. Нядзеля.
Не схавацца нідзе –
дожджык з рэшата сее
ўсё шпарчэй і гусцей.

Лета. Ліпень. Нядзеля.
нам да лесу абы.
Мы жаданні падзелім,
на астатку – грыбы.

Папалам гэта неба,
што між елак дрыжыць.
Лета. Ліпень. Не трэба
ні ілгаць, ні прасіць.

У агеньчык мы дзьмулі,
цверазела краса,
покуль сохлі кашулі
і спадала раса.

Лета. Ліпень. Далёка
ад сябе стаў я сам.
І душы не высока,
й не далёка вачам.

Лета. Ліпень адплакаў,
у елках вецер завыў:
- Т ы навошта сабакам,
бацька, сена касіў?

* * *

Там, за лугам, гармонік грае...
рэчка, быццам юнацтва парог.
І чаго яшчэ сэрца чакае?
Для каго яшчэ песня гукае
з летуценных юнацкіх трывог?

Узысці на забытую кладку
на сустрэчу з той песняй хутчэй!
Там і месяц свой танец-загадку
з купкай зорак танцуе ўпрысядку,
толькі час хутчэй рэчкі цячэ...

а за лугам гармонік грае
песню даўніх, шчаслівых трывог.
І чаго яшчэ сэрца чакае?
Для каго яшчэ песня гукае?
Кліча, кліча з далёкіх дарог.

## Ранак

Вось цяпер цябе
разбудзіць ранак.
Босы пракрадзецца ён праз шкло.
І рука, што холадам скавана,
апячэцца аб шчакі цяпло.

Нечаканы, як начны мой вершык,
упільнуе, можа, узлёт брыва,
ці ўкрадзе чароўную усмешку,
каб маёй ніколі не была.




Ранак праз імгненне пастарэе,
згубіць рыфму ў пытанні верш.
Ты салодка спіш,бо разумееш,
што ў жыцці найгорай,
што найлепш.

## Эскіз

Намаляваў неясна, невыразна
Туман пушысты
лесу ўздых-эскіз...
Вясенні вецер
хутка клямкай бразне,
вясна шугне,
як з зоркі стромкай уніз.

Зямля напухла
пад падталым снегам,
шукаюць сонца сосны ў вышыні,
а недзе там, за лесам і за светам
наш бусел лічыць
да спаткання дні.

Туманным гэтым ціхім раннем
і знізу ўверх, і зверху ўніз
гляджу, гляджу эскіз чакання
і лесу лёгкі ўздых-эскіз.

## Зорка мая

Зорка мая!
Табой здзіўлены вечар.
Развітаемся з летам –
адлётным птахам.
Вандравалі мы доўга
да нашай сустрэчы
недзе між Сонцам
і Млечным шляхам.

Лёс надзяліў нас
гэтым казачным светам,
назаўжды знепакоіў,
падарыў прыгажосць.
Зорка мая!
У вечар позняга лета
ты на зямлі,
хоць далёка, а ёсць.

І хоць гэта пара
ячшчэ летам завецца,
спас буслоў устрывожыў
дарогай далёкаю.
А ці будуць шчаслівымі
нашы ў выраі сэрцы?
Так зайздросна адзіныя,
толькі ўсё ж адзінокія.






* * *

Аб усім,
аб чым трэба было расказаць,
расказалі і словы, і вочы...
аб надвор'і сіноптыкі
будуць ілгаць,
не забыўшы на гонар рабочы.
Учора сонца свяціла для іх
неўпапад,
на сягоння – прагноз апраўдаўся:
у асобным раёне
не гудзе снегапад.
Толькі сэрцам раён аказаўся.
Не прыручаны буры,
снягі і дажджы –
апраўданне, ва ўсякім разе,
а за тых, што паспелі
к сабе прыручыць,
трэба, усё-такі, быць у адказе.
Скончыць Прынц між планетаў
далёкіх лятаць,
так адказнасці нечай захоча!..
Аб усім, аб чым трэба было
расказаць,
расказаў.

## Сябру

А ноч шаптала,
што ўжо дзень патух...
Ды не ўлягліся спрэчкі,
роспач і развага.
Рукою часу
ставяцца на вагі
задумаў вартасць і
цана натуг.

Што не ўлягліся спрэчкі,
роспач і развага,
крычыць да ранку
ў акне святло,
і матылькі
адчайна б'юцца ў шкло,
далёкія ад страху
і адвагі.

Рукой цярпення
ставяцца на вагі
падман і праўда,
і святло, і цені...
Цяжэй за ўсе –
тваё сумненні,
для задаволеных –
не вартыя ўвагі.

Для іх, мой дружа,
сам ты б'ешся ў шкло.
І смешна ім
з тваёго цяжкога шчасця.
Спяшу руку сваю
ў тваю пакласці –
жывем,
пакуль заве святло.






*Побач з намі*

*жыў Прарок,*

*і цяжкім быў*

*яго шлях*

*на Галгофу.*

## Аркадзь Мігдал

# Да партрэта Андрэя Сахарава

Калі разважаць пра вялікі вычын Сахарава, міжвольна ўзнікае вобраз Сына Чалавечага, Які каля дзвюх тысяч гадоў таму хадзіў па зямлі Галілеі, спрабуючы несці людзям праўду.

Ці можна было спадзявацца на поспех барацьбы некалькіх самаахвярных людзей, барацьбы з магутным апаратам улады, улады бесчалавечнай, пабудаванай на фашыстоўскім прынцыпе "мэта апраўдвае сродкі"? Вычын Сахарава ў тым, што ён паверыў у магчымасць поспеху і не адступаўся ні ў Горкім, калі "дактары" валілі яго на падлогу і выкручвалі рукі для гвалтоўных уколаў, ні на З'ездзе народных дэпутатаў, дзе яго словы заглушвала здзеклівае, шалёнае лямантаванне "агрэсіўна-паслухмянай большасці".

Калі спрабуеш пісаць пра чалавека, перад якім схіляешся ў пашане, галоўнае жаданне – не прымешваць сябе. Але гэта немагчыма без стратаў. Каб даць уяўленне пра час і пра людзей, якія жылі побач з Андрэем Дзмітравічам, мне волей-няволей давядзецца распавесці і пра

такія падзеі, ў якіх ён непасрэдна, наўпрост нават і не ўдзельнічаў. Мне падаецца, што і самы малы эпізод з іх, які мае хоць нейкае дачыненне да Андрэя Дзмітравіча, заслугоўвае згадвання.

Упершыню я сустрэўся з Сахаравым у 1947 годзе, калі ён папрасіў мяне быць апанентам на абароне яго кандыдацкай дысертацыі. Гаворка ішла пра карэляцыю электронаў і пазітронаў пры нараджэнні іхніх параў. Павінен прызнацца, што тады я не ацэньваў маштабу гэтага чалавека, а проста ўбачыў вельмі таленавітага пачаткоўца-фізіка.

Пасля гэтага Андрэй Дзмітравіч надоўга знік з майго відавоку; ён пачаў займацца атамнымі таямніцамі. У 1950 годзе ў Інстытут атамнай энергіі, дзе я тады працаваў, прыйшла справаздача А. Д. Сахарава і І.Я. Тама, ў якой І. В. Курчатаў папрасіў мяне разабрацца. Яны прапаноўвалі праект устаноўкі для кіраванага тэрмаядзернага сінтэзу. З гэтай дзівоснай ідэі ўзніклі сучасныя збудовы, задача якіх – ажыццявіць тэрмаядзерны сінтэз практычна. Пакуль што гэта ўдалося толькі ў лабараторных умовах. Калі ў выніку такіх намаганняў з'явіцца экалагічна чыстая крыніца неабмежаванай энергіі, чалавецтва яшчэ не раз згадае імя Сахарава не толькі, як вялікага гуманіста, але і як вялікага навукоўца.

Напрыканцы тэксту справаздачы рукою Сахарава было дапісана (цытую напамяць): "Спадзяюся, што ажыццяўленне гэтай ідэі дасць у рукі нашай краіне такую крыніцу энергіі, якая дазволіць супрацьстаяць імперыялізму". Гэтая наіўная фраза патлумачыла мне яго адносіны да працы над вадароднаю бомбай. У той час я ўжо разумеў, у якія рукі трапіць ядзерная зброя, і вырашыў, што не буду займацца засакрэчанымі працамі. На шчасце, Курчатаў, які вельмі добра да мяне ставіўся, здагадаўшыся пра гэта, выдзеліў мне асобны сектар, у задачы якога ўваходзіла фундаментальная, а не прыкладная ядзерная фізіка. Пазней словы Андрэя Дзмітравіча перасталі падавацца дзіўнымі. Зразумела, ён мог займацца ядзернай зброяй толькі пры ўпэўненасці, што працуе на дабро для людзей. Ў аўтабіяграфіі Андрэй Дзмітравіч піша: "… Дваццаць гадоў – бесперапынная праца ва ўмовах звыштаемнасці і звышнапружання спачатку ў Маскве, затым у спецыяльным навукова-доследным сакрэтным цэнтры. Усе мы тады былі перакананыя ў жыццёвай важнасці гэтай працы для раўнавагі сілаў ува ўсім свеце і захопленыя яе грандыёзнасцю".

Вымушаныя стасункі з тымі, хто вяршыў лёсы нашай краіны, дапамаглі яму хутка зразумець, да якіх жахлівых наступстваў можа





прывесці створаная ім зброя ў руках гэтых беспрынцыпных і неадукаваных авантурыстаў. Можна ўявіць сабе, якой трагедыяй было для яго збаўленне ад ілюзій…

Новы перыяд маіх стасункаў з ім пачаўся пасля абрання 32-гадовага Сахарава наўпрост у акадэмікі, мінаючы членкораўскую стадыю. Яго навуковы маштаб на гэты час быў ужо відавочны нават для тых, хто не ведаў дэталяў яго закрытых працаў. Мы сустракаліся на паседжаннях Аддзялення ядзернай фізікі і часта размаўлялі на навуковыя і ненавуковыя тэмы. Тады Андрэй Дзмітравіч быў захоплены сваёй ідэяй атрымання звышмоцнага магнітнага поля з дапамогай выбуху. Менавіта гэтым метадам у 1964 годзе атрымана самае моцнае на Зямлі магнітнае поле – 25 мільёнаў гаўс.

У 60-х гадах Сахараў пачаў займацца палітыкай. Надзвычайна, што тады ж, у 1966 годзе, ён зрабіў лепшую сваю працу па тэарэтычнай фізіцы – дзіўнай глыбіні даследванне па касмалогіі. У 1968 годзе ён апублікаваў за мяжой першую са сваіх прарочных кніг, якая ў той час магла падацца наіўнай. Але, як сказаў Шапэнгаўэр, талент трапляе у цэль, у якую ніхто трапіць не можа, геній трапляе ў цэль, якую ніхто не бачыць.

Андрэй Дзмітравіч некалькі разоў даваў мне зразумець, што хацеў бы паклікаць мяне да грамадскай дзейнасці. Аднойчы на яго канкрэтную прапанову я адказаў, што гэта рашуча змяніла б той лад жыцця, які я для сябе выбраў. Вартая ўвагі была рэакцыя Андрэя Дзмітравіча. Мне не давялося тлумачыць, што я не валодаю грамадзянскім тэмпераметам і мужнасцю, неабходнымі для іншадумца, і не хачу страціць нутраную свабоду, без якой мне немагчыма займацца навукай ,і, нават, само жыццё. Ён зразумеў і прыняў маю адмову.

У 1978 годзе, у знак пратэсту супраць пераследу дысідэнтаў у СССР многія замежныя навукоўцы адмовіліся прыехаць у Маскву на Міжнародную канферэнцыю па калібраваных тэорыях. Перад пачаткам паседжанняў, калі ўсе ўжо сабраліся ў зале – і нашыя, і нешматлікія, прыехаўшыя з-за мяжы, - Андрэй Дзмітравіч падышоў да дошкі і напісаў вялікімі літарамі: "Дзякуй усім, хто не прыехаў!". Зала спачувальна загула, а да дошкі па просьбе старшыні падышоў малады чалавек і спешна сцёр надпіс.

Напрыканцы студзеня 1980 года Сахараў, пазбаўлены ўсіх узнагародаў і ордэнаў, быў высланы ў Горкі. Повадам паслужылі яго выступленні ў заходнім друку супраць бессэнсоўнай і злачыннай вайны

ў Афганістане. Пачаўся горкаўскі перыяд жыцця Сахарава. Неўзабаве прайшла чутка, што на чарговым сходзе яго збіраюцца выключаць з Акадэміі. Напярэдадні сходу я паехаў у Вузкае, каб высветліць справядлівасць гэтых чутак і параіцца з сакратаром аднаго з аддзяленняў Акадэміі, які там знайходзіўся.

Увечары тым жа днём я прыехаў да Пятра Леанідавіча Капіцы. Я сказаў яму, што ніколі не быў дысідэнтам, але калі будзе паднятае пытанне аб выключэнні Андрэя Дзмітравіча, заяўлю на сходзе пра ўсё, што думаю. Між іншым паўтару тое, што казаў мне Леў Андрэевіч Арцімовіч незадоўга да сваёй смерці: "Калі зойдзе гаворка пра выключэнне Сахарава, я выйду на кафедру і папрашу паказаць мне хоць бы аднога з прысутных у гэтай зале, хто зрабіў для краіны больш, чым ён". Пётр Леанідавіч сказаў мне: "Пачніце, а больш пажылая частка Вас падтрымае…". Калі мы вычарпалі гэтую тэму, Капіца пачаў чытаць мне свае лісты, цяпер ужо апублікаваныя, якія ён пісаў Сталіну і іншым членам ураду з нагоды розных выпадкаў, у прыватнасці, з нагоды арышту акадэмікаў Ландаву і Фока.

Да гонару Акадэміі, пытанне пра выключэнне Сахарава не ставілася.

У лістападзе 1981 году, калі я даведаўся, што Андрэй Дзмітравіч і яго жонка абвясцілі галадоўку, я, акрамя трывогі за іх здароўе і жыццё, вельмі востра адчуў небяспеку магчымых наступстваў, пачынаючы з размяшчэння ў Еўропе амерыканскіх ракет, якіх тады яшчэ там не было, і закончваючы поўным спыненнем з нашай краінай усіх міжнародных навуковых кантактаў. Не ўсе разумелі, што повад галадоўкі (патрабаванне дазволіць Лізе Аляксеевай выехаць да свайго мужа-- сына Алены Георгеўны) прадыктаваны не сваяцкімм пачуццямі, а імкненнем абараніць правы і годнасць кожнага чалавека. Як распавяла мне нядаўна Алена Георгеўна, нават Лідзія Карнееўна Чукоўская засмучалася, што повадам паслужыла асабістая прычына, а не патрабаванне вызвалення Анатоля Шчаранскага. Маці Шчаранскага, якая прысутнічала пры гэтым, усклікнула: "Як вы не разумееце, што так ён змагаецца за ўсіх!".

Некалькі членаў Акадэміі спрабавалі дапамагчы Андрэю Дзмітравічу. Распавяду пра тую спробу, ў якой ўдзельнічаў я сам. Усе, з кім я размаўляў у Прэзідыюме Акадэміі навук, вельмі спачувальна ставіліся да намаганняў выратаваць Сахарава. Таму мне своечасова паведамілі пра нараду наконт яго, скліканую ў прэзідэнта Акадэміі А.П. Адяксандрава. Павінны быў прыехаць Андропаў, але ў апошні момант высветлілася, што заміж Андропава будзе яго намеснік. Да пачатку




паседжання я падрабязна выказаў віца-прэзідэнту Я. П. Веліхаву свае меркаванні пра магчымыя трагічныя наступствы галадоўкі. Потым стаў чакаць у ніжнім вестыбюлі Аляксандрава, да якога ў гэтыя дні немагчыма было трапіць. І мне надарылася ўсяго некалькі хвілін, пакуль мы з ім падымаліся па прыступках лесвіцы. Я сказаў: "Ёсць толькі адзін ключ да развязкі праблемы. Трэба безагаворна згадзіцца з ягонай па сутнасці дробязнай просьбай. Адмова прывядзе да непрадказальных наступстваў для нашай навукі". На гэта Аляксандраў, паўтараючы версію КДБ, адказаў: "Вінавацьце ўва ўсім яго жонку". Я запярэчыў, што ў яго (Аляксандрава) недакладная інфармацыя. Андрэй Дзмітравіч – чалавек зусім незалежнай думкі і робіць усё паводле глыбокага нутранога пераканання.

Пазней я цераз Веліхава перадаў Аляксандраву кароткую цыдулку, ў якой па пунктах пералічваліся довады, паводле якіх патрэбна неадкладна ўхіліць прычыну галадоўкі. Цыдулка тая пачыналася з заявы, што для Акадэміі --і не толькі для яе – праблемы, больш важнай за гэтую, зараз не існуе, таму пытанне павінна вырашацца на самым высокім узроўні. Да мяне дайшлі чуткі, нібыта адзін з нашых кіраўнікоў сказаў: «Хто такі Сахараў, каб паставіць нас на калені?» Таму я ўключыў, магчыма, наіўную фразу: "Вялікадушша моцнага падкрэслівае яго сілу". З небяспекі, што "дактары ў цывільным", якія назіралі за Сахаравым, ужывуць гвалтоўнае кармленне, я напісаў у адным з пунктаў: "Неабходна ўлічыць яго незвычайныя душэўныя якасці: неасцярожныя прымусовыя захады маглі б прывесці да непрадказальнай рэакцыі і фатальнага зыходу".

Нарада ў Аляксандрава ні да чаго не прывяла. Намеснік Андропава заявіў, што яны кантралююць сітуацыю.

Аляксандраў трапіў пад вялікі ціск – тэлеграмы ў абарону Сахарава ішлі з розных канцоў Зямлі. Цяжкасць такой сітуацыі, як відаць, была ў тым, што Андропаў рашуча стаяў супраць задавальнення просьбы Сахарава. І я зразумеў, што трэба любым спосабам падштурхнуць Аляксандрава пайсці да Брэжнева і дабіцца рашэння.

Познім вечарам я прыйшоў да майго даўняга знаёмага В. Р. Рэгеля, блізкага сябра Аляксандрава, і некалькі гадзін, не абмяжоўваючыся ў выразах, тлумачыў яму, якую нікчэмную памяць пакіне пра сябе гэты яго сябар і якой ганьбай будзе на вякі пакрыта яго імя ў выпадку фатальнага зыходу. І сустрэў поўнае разуменне Вадзіма Робертавіча і яго жонкі. У тую ж ноч ён паехаў да Аляксандрава дадому і размаўляў з

ім у прысутнасці жонкі Анатоля Пятровіча, добрай і разумнай жанчыны. Мне здаецца, яе прысутнасць сыграла вырашальную ролю. На наступны дзень Аляксандраў паехаў да Брэжнева і дабіўся станоўчага рашэння

Андрэй Дзмітравіч і Алена Георгеўна галадалі сямнаццаць дзён...

Праз некаторы час я даслаў Андрэю Дзмітравічу ў Горкі сваю кніжку "Пошук праўды". У адказ прыйшла тэлеграма з паведамленнем аб атрыманні, якую хаваю, як рэліквію: "Дзякуй за кнігу, за ўсе водгукі, ваш Андрэй Сахараў".

Сахаравы вярнуліся ў Маскву ў снежні 1986 года, правёўшы ў высылцы сем гадоў без аднаго месяца, тады, як "паводле закону", гранічны тэрмін высылкі – пяць гадоў.

У першы ж дзень прыезду Андрэй Дзмітравіч адправіўся на семінар у Фізічны інстытут ім П. Н. Лебедзева. Каб яго пабачыць, я прыйшоў туды на наступны семінар -- 30 снежня. Акрамя вядомых мне фізікаў сюды прыйшлі журналісты Юры Рост і Алег Мароз. Пасля семінару яны прапанавалі адвезці Андрэя Дзмітравіча і мяне дадому. Па дарозе Андрэй Дзмітравіч распавёў, як скончылася горкаўская высылка. Паўтару яго аповед так, як ён мне запомніўся.

Зусім нечакана да Сахаравых прыйшлі манцёры і паставілі тэлефон. На наступны дзень патэлефанаваў Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў і сказаў, што прынята рашэнне, згодна з якім ён з жонкаю могуць вярнуцца ў Маскву. Андрэй Дзмітравіч адказаў: "Дзякуй, але на днях у чыстапольскай турме загінуў мой сябар Анатоль Марчанка. Ён быў першы ў спісе, які я Вам паслаў. У савецкіх турмах гібее шмат вязняў сумлення, і іх усіх трэба вызваліць". Гарбачоў запярэчыў, што сярод іх ёсць розныя людзі. "Усё роўна, - настойваў Сахараў, - вызваліць трэба ўсіх". Гарбачоў не згадзіўся з гэтым, але Андрэй Дзмітравіч не адступаў: "Умольваю Вас вярнуцца да гэтага пытання. Гэта неабходна для Вас асабіста, і для міжнароднага прэстыжу нашай краіны...". Гэткай надзвычайнай размовай закончылася сямігадовая высылка Сахаравых.

Але і пасля іх вяртання доўгі час існавалі негалосныя забароны згадваць імя Сахарава ў друку і на тэлебачанні. Я з гэтым непасрэдна сутыкнуўся. У 1987 годзе тэлебачанне здымала фільм "Сумняваюся ў яўным, веру цуду...", прысвечаны навуцы і адказнасці навукоўца, ў якім я прымаў удзел. Адным з эпізодаў фільму была мая гутарка ў клубе працоўных на Ляніўцы. Мне задалі пытанне пра Сахарава. Калі я адказаў, падняўся малады чалавек і сказаў: "Я адчуў Вашае хваляванне, калі вы гаварылі пра Андрэя Дзмітравіча, і лічу абавязкам нашага сходу вынесці




пастанову пра дапушчаныя ў адносінах да Сахарава парушэнні правоў чалавека".

Неўзабаве высветлілася, што кіраўніцтва Цэнтральнага тэлебачання намерылася выкінуць увесь кавалак з напамінам пра Сахарава. Тады я напісаў ліст на імя члена Палітбюро А. М. Якаўлева. Ён закончваўся такімі словамі: "А. Д. Сахараў – не толькі буйнейшы фізік, але і здуменнік з глыбокімі і нечаканымі гуманітарнымі ідэямі. Ён з адабрэннем і даверам адносіцца да пераменаў, якія адбываюцца ў нас, але дзеля таго, каб паклікаць яго да грамадскага жыцця, трэба, як мне здаецца, перш за ўсё аднавіць яго добрае імя ў краіне, для якой ён так шмат зрабіў. Згадванне пра яго ў тэлефільме, зробленае неафіцыйнай асобай – далікатны і дастаткова эфектны пачатак гэтай справядлівай справы. Спадзяюся на Вашую дапамогу. Праз некаторы час мне паведамілі, што фільм выходзіць без купюр.

У 1988 годзе ў Маскву прыехаў выдатны амерыканскі фізік Дэвід Грос. Ён папрасіў мяне дапамагчы яму сустрэцца з Сахаравым. Андрэй Дзмітравіч ведаў Гроса і як фізіка, і як грамадскага дзеяча. Ён выкраіў з свайго раскладу час для сустрэчы і папрасіў мяне ў ёй удзельнічаць. Размова пачалася з абмеркавання пераменаў, якія адбываюцца ў нас. Мы ўсе тады ўспрымалі іх, як пачатак пераходу да сапраўды дэмакратычнага грамадства. Затым размова перайшла да навукі. Мяне ўразіла, з якой жвавасцю Андрэй Дзмітравіч рэагаваў на навуковыя навіны. Асабліва яго хвалявалі апошнія вынікі ў тэорыі квантавых струнаў, якой ён больш за ўсё цікавіўся яшчэ да вяртання з Горкага.

У тым жа годзе ў Маскву прыехаў вядомы фізік, прафесар інстытуту Вейцмана, Гары Ліпкін. Ён -- адзін са шматлікіх замежных вучоных, які таксама прыкладаў вялікія намаганні для вызвалення Сахарава. Я запрасіў яго з жонкай у госці. Андрэй Дзмітравіч, даведаўшыся, што Ліпкін будзе ў мяне, патэлефанаваў мне і запытаўся: "А што, калі мы з Люсяй зараз да вас прыедзем?". Ці трэба казаць, як мы ўзрадаваліся! Былі смачныя стравы, і ўсе вячэралі з вялікім апетытам. Потым Андрэй Дзмітравіч і Алена Георгеўна падрабязна распавядалі пра сваё паднагляднае жыццё ў Горкім. Немагчыма было без камяка ў горле слухаць гэты пералік здзекаў і беззаконняў. Пазней Алена Георгеўна бязлітасна апісала горкаўскія пакуты ва ўспамінах, надрукаваных у часопісе "Нява".

У гэты вечар я зрабіў некалькі здымкаў для Сахаравых, Ліпкіных і для сябе…

Яшчэ адна нечаканая сустрэча адбылася, калі я прыехаў на некалькі

дзён у Стэнфардскі універсітэт для дакладу на семінары. Мяне памясцілі ў кабінеце адсутнага ў той час Сіднея Дрэла, вялікага сябра Сахарава. На стале я ўбачыў фатаграфію абняўшых адно аднога Андрэя і Люсі. Яны былі такімі шчаслівымі, што я лішнім разам зразумеў – усе, хто любіў Андрэя Дзмітравіча, павінны нізка пакланіцца Алене Георгеўне за шчасце, якое яна яму падаравала, нягледзячы на ўсе цяжкасці іх жыцця, і за яе вялікую мужнасць, якая дазволіла ёй з годнасцю несці званне сяброўкі Сахарава.

Увосень 1988 году Андрэй Дзмітравіч папрасіў мяне ўвайсці ў ініцыятыўную групу па стварэнню "Маскоўскай трыбуны". Калі я выказаў сумневы, што змагу ўдзяляць дастаткова часу, ён запярэчыў: "Мне б хацелася, каб Вашае імя было ў ліку ініцыятараў". Цяпер я вельмі рады, што згадзіўся. Гэта дазволіла мне правесці некалькі вечароў на славутай кухні Сахаравых і пазнаёміцца з выбітнымі людзьмі, якіх да таго ведаў толькі па іх артыкулах. Там прысутнічалі А. М. Адамовіч, Ю. М. Афанасеў, Л. М. Баткін, Ю. Г. Бурцін, Л. В.Карпінскі, Ю. Ф. Каракін, Р. З. Сагдзееў. Андрэй Дзмітравіч меў на "Маскоўскую трыбуну" вялікія надзеі і вельмі прыспешваў нас з арганізацыяй яе выдання.

Праглядваючы спіс меркаваных сяброў, я са здзіўленнем выявіў імя аднаго страціўшага розум матэматыка. Калі я спытаў, як яно там апынулася, адказ уразіў мяне сваёй наіўнасцю: "Я спадзяваўся, што ў нашай грамадзе ён пераменіцца..." Дзіўна, як спалучылася ў ім найвялікшая глыбіня думкі з дзіцячай верай ў добрыя якасці людзей.

Значнасць чалавека праяўляецца ў здольнасці здзяйсняць учынкі, яму не адпаведныя, прадыктаваныя пачуццём абавязку. Можна ўявіць сабе, як пакутліва цяжка было Сахараву пераадолець прыроджаную далікатнасць і выцяць па твары нягодніка, які напісаў паклёпніцкую кнігу. З тых часоў гэтая поўха гарыць на тварах усіх, хто з выгады ці з баязліўства падпісваў хлуслівыя лісты. Гэтая рыса Сахарава з асаблівай сілай праявілася на З'ездзе народных дэпутатаў і на паседжаннях Вярхоўнага Савету.

Тэлевізар дазволіў мільёнам людзей адчуць праўду і боль яго ціхіх непахісных словаў, якія перарываліся воклічамі старшыні. Нямая прамова Сахарава перад выключаным мікрафонам набыла значнасць сімвалу – сімвалу, які дапаможа людзям разагнуць спіны і ўсяляе надзеі на перамогу дабра і розуму.

Побач з намі жыў Прарок, і цяжкім быў яго шлях на Галгофу.

**Пераклад з рускай Станіслава Судніка.**






# Юля Гушчынская

## Зімовы настрой

*Ціха-ціха снег лажыцца*
*На палі і на лужок.*
*І пяшчотны сон мне сніцца –*
*Ціхі, белы, як сняжок.*

*Завіруха завывае,*
*Свішча вецер за акном.*
*Сум трывожны набягае,*
*Студзіць душу халадком.*

*Так трашчыць мароз рыпучы,*
*Што на небе месяц змерз,*
*Але цёпла каля печы*
*Слухаць мне паленаў трэск.*

*А як сонейка засвеціць,*
*Заіскрыцца ўсё вакол.*
*Прыгажэй няма на свеце*
*Зімніх казачных дзянькоў.*

## Дзень добры, вясна!

*Мароз адышоў далёка за бор,*
*Праглынуўшы крадком*
*рэшткі снегу.*
*Маладая вясна ідзе на парог,*
*Спяваючы песні сонцу і небу.*

*Будзіць яна гаманлівы лес.*
*Кветкі, траву і дрэвы.*
*Празрыстая сінява нябёс*
*Вясне адчыняе дзверы.*

*Ціха-ціхенька сад ажывае,*
*Белы бусел над хатаю кружыць,*
*Шпак вясновую песню спявае...*
*Аб зіме ўжо, нішто не тужыць.*



# Мікола Лазоўскі

***Звенявою я была,*** *(3 разы)*
***Буракоў я накрала.***

***Буракоў я накрала,*** *(3 разы)*
***Самагонкі нагнала.***

***Самагоначка ўдалася,*** *(3 разы)*
***Ўся брыгада напілася.***

***І напіўся галава,*** *(3 разы)*
***Шчэ й з раёна было два.***

***І міліцыя піла*** *(3 разы)*
***Шчэ і прэмію дала.***

*(З народнага).*

## Частушкі

Змардаваўся дэпутацік,
Ад гарэлачкі памрэ.
Наша партыя радная
Нам другога падбярэ.

Сабраліся ля канторы,
Ужо паўдня як раюцца,
Дзе ж гарэлачкі дастаць,
Каб "галаве" паправіцца.

Дачакаліся Пятра,
За жніво ўзяліся.
Жменю жыта прынясла,
-Еш, хоць падавіся.

Нашы куры не нясуцца,
У куратніку сядзяць.
Пятуха здалі на мяса,
Каб дзяржаву падтрымаць.

Ходзь ту хаме!- Клікаў пан,
Мне было абідна,
Як калгаснікам празвалі,
Тады стала стыдна.

Мы не кепска працавалі
І без хлеба не жылі.
Тады сталі пабірацца,
Як суботнікі ўвялі.

Гарадскога мужыка
Дача выручае,
Як пачне бульбу садзіць,
Жонку запрагае.




Хопіць нас ужо пужаць
Мы ж ужо пужатыя,
Давай пойдзем у новы век
З галавой паднятаю.

Кожны дзень у калгас хадзіла
Зарабляла працадні,
А ў кішэнях заўжды пуста,
Хоць ты ногі працягні.

Замест Бога я ў куточак
Грамату павесіла,
Увесь дзень прымач талдыча,
Ну а мне не весела.

У нас адгрохалі кантору,
Можна падзівіцца.
У калгасе "Глаўных» многа,
Усім не памясціцца.

Заатэхнік, аграном...
А колькі тых намаў,
Не кантора, а дурдом,
А справы ідуць слаба.

"Шэф" прыехаў памагаць,
Крыху задаецца,
А як сядзе за стол жраць,
Дык, як вол, напрэцца.

А як пойдзе ён у поле,
Дык не хоча працаваць.
У яго адна турбота,
Дзе б гарэлачкі дастаць.

А з раёна, што ні дзень,
Прыязджае зграя.
І не бачаць ні халеры,
Вёска ж вымірае.

Ужо і цэркву адчынілі,
Бацюшка спявае
Не, маленькіх каб хрысціць,
Дзядуль адпявае.

## Успаміны

Я дзядок з той цёмнай вёскі
Што над Нёманам стаіць.
Дзе саломенныя стрэхі,
А па хаце печ дыміць.

Дзе ў каморы жорны круцяць
Муку мелюць на бліны.
Дзе зусім нядаўна
- Ходзь ту хаме збунтаваны!
Мяне клікалі паны.

Я даўно як пасівеў
І ўжо ўнукі маю,
А далёкае дзяцінства
Што дзень успамінаю.

Гараваць і бядаваць
Добранька прыйшлося
Ды, што кепскае было
З часам забылося.

* * *

На самым ускрайку лесу
Будынкі стаялі,
А бярозкі смачным сокам
Вясной частавалі.

Салавейка вечарам,
І зязюля з рання,
А ўдод чубаты
Бубніў каля хаты.

Як вясновай раніцаю
Сонейка зайграе,
Курачкі мацней сакочуць
А пеўнік спявае.

Парсючок бульбу грызе,
Брыкаюць цялушкі,
А як конік заіржэ,
Гэдак лашчыць вушкі.

Як улетку клеплюць косы…
Музыка ж якая,
Нават дзятлік, каб паслухаць,
З лесу прылятае.

Зайчанё вушы падняў,
Пакасіў вачыма –
Мусіць трэба ўцякаць,
Косяць канюшыну.

Вось і прывязлі сянцо,
Ў гумянцо злажылі.
І вакол цудоўным пахам
Ўсё паабкурылі.

А вунь з поля жнеі йдуць,
Песеньку спяваюць
І з валожак з каласкамі
Букецік трымаюць.

Так і хочацца абняць,
Мілыя браточкі,
Пакланіцца нізка ў пояс,
Заглянуць у вочкі.

* * *

Ой, зямелька родная,
Што мы нарабілі
Гірбіцыдам і нуклідам
Цябе атруцілі.

Трактар і экскаватар
Усё збузавалі,
А ў прыгожых куточках
Ірвоў накапалі.

Дзедаў нашых і бацькоў
Ты спраўна карміла,
А вадзіцаю з крынічкі
Хворанькіх лячыла.

Пажаваўшы з луга траўкі
Зараз дохне быдла.
Ад бензіну і саляркі
Пах ідзе агідны.

Колькі птушак і звяроў
Бегала на полі,
Нам-жа была тога мала
Ждалі лепшай долі.






## Міхась Мельнік

***Што б ні здарылася,***

***скажам мы:***

***неба над намі роднае!***

***Мужнасцю неба***

***зараджана,***

***ласкаю неба***

***напоўнена.***

## І. Імгненні

* * *

Іду
    спахмурнелы і ў скрусе.
На сэрцы
        нуда і стома.
І раптам такая вясёласць...
Я дома!
Я дома!
Я дома!

* * *

Адзін
    у гняўлівай трывозе
па вуліцы цёмнай
            крочу.
Глянуў у неба.
А месяц
    смяецца мне ў вочы!

* * *

Дождж за акном імглісты.
І неба ў шэрані злоснай.
На правы бок павярнуся –
            ты побач!
Мне светла і млосна...

* * *

Дотык
    да тваіх вуснаў.
Дотык
    да твайго цела.
Утрапенне...
    Душа ўзляцела!

* * *

У майго кахання
        арліныя крылы.
І ніякай сіле
        іх не адарваць,

І ніякай кулі
іх не прастрэліць.
У майго кахання
блакітныя вочы,
якія далёка-далёка
глядзяць
і лёс мой святлом азараюць.

## II. Кроплі суму

* * *

Помню выразна нават цяпер я,
як да Вас ішоў
я з вялізным букетам...
Я вельмі кахаў Вас
і думаў аб гэтым
сказаць Вам.
І вось адчыняюцца дзверы...
Кветкі я моўчкі
Вам працягнуў.
Вы ж у адказ,
з усмешкаю дзіўнай
паставіўшы кветкі мае на віду,
мне падарылі ўзамен
свой позірк,
поўны надзеі,
што ўжо я пайду.

* * *

З табою не каханне – гора:
вачэй тваіх так баюся.
Яны ў цябе, нібыта мора,
Я ж плаваць толькі што вучуся...

* * *

Ты чаго сумуеш, юная бярозка?
Што цябе хвалюе, мілая, скажы?
Можа, клён гарэзны,
што шуміць за вёскай,
узбянтэжыў струны
маладой душы?
Можа, адчуваеш ты маю трывогу,
боль вялікай страты
у маім жыцці...
Не вярнуць ніколі
той шчаслівай песні,
што была, як сонца,
для мяне заўжды...

* * *

Стаяць, нібыта здані,
зажураныя дрэвы...
Калісь жыло каханне.
Цяпер яно памерла.

Як цяжка і маркотна
мне без твайго даверу...
Няўжо ўсё незваротна?
Забіце хоць – не веру!

## Роднае неба

Неба па дахах стукае
ліўнямі, промнямі, градам.
Гамай вясёлковых гукаў
неба абрушыцца рада б.

Толькі б ні попелам-гарам,
толькі б ні воблакам гібельным,
ні тэрмаядзернай хмарай,
неба, ніколі не быць табе.

Можа, стаць хочаш ты песняй
з грому вясенняга... Можа,
хочаш матуляю сесці
каля дзіцячага ложка.

І кулачкі ўзяць сонныя,
казку сказаць пра жорава,
вецер пусціць азонавы,
нашага хлеба паспрабаваць...

Што б ні здарылася, скажам мы:
неба над намі роднае!
Мужнасцю неба зараджана,
ласкаю неба напоўнена.




# “Спевы
## пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года”




## Ян Чачот

*Перш,*
*чым ясна сонца*
*ўзойдзе,*
*Ноч зямлю захіне,*

*Перш,*
*чым скажуць*
*аб народзе,*
*Ён у цемры гіне...*

Ян Чачот – беларускі паэт і фальклярыст, сучаснік і сябар Адама Міцкевіча. Пісаў па-беларуску і па-польску. Напісаў шэраг баладаў, выдаў 6 фальклорных зборнікаў, каля 1000 песень, у перакладзе на польскую мову і ў арыгінале. Аўтар шэрагу іншых твораў і сярод іх 55 баладаў на польскай мове: “Спевы пра даўніх ліцьвінаў”. Гэтыя “Спевы…” вартыя ўвагі ўжо тым, што ў савецкіх энцыклапедыях яны не згадваліся, як бы і не існавалі зусім. Ну і, вядома, чытачу яны былі недаступныя.

У 1989 годзе Яніна Кажэняўскене пераклала гэтыя балады на летувіскую мову. У1994 годзе ў Летуве балады выйшлі асобнай кнігай на польскай і летувіскай мовах.

У 1996 годзе ў серыі “Беларускі кнігазбор” выйшлі 24 балады “Спеваў…” у перакладзе Кастуся Цвіркі. І адразу стала зразумела, якому ж народу належаць гэтыя творы. Яшчэ сам Чачот казаў Міцкевічу, што ён вельмі хацеў бы, каб яго балады заспяваў народ. І






заспявалі. Заспявалі, менавіта, беларусы. "Наша слова" пачало друкаваць ноты "Спеваў...", напісаныя рознымі беларускімі кампазітарамі. Станіслаў Суднік паводле ўзгаднення з Кастусём Цвіркам прыступіў да перакладу астатніх 31-балады. Першыя з іх мы прапануем нашым чытачам. Усе яны на Беларусі друкуюцца ўпершыню.

Беларусь не мае свайго гістарычнага эпасу ў звыклым выглядзе, але нашая гісторыя мае вялікую колькасць гістарычных асобаў і герояў. Ян Чачот, грунтуючыся на "Кроніцы..." Мацея Стрыйкоўскага і "Гісторыі..." Тодара Нарбута фактычна стварыў гэты эпас у выглядзе 55 балад пра гістарычных дзеячоў старажытнай Літвы. Героі балад, як рэальныя гістарычныя дзеячы, так і міфічныя. Адлюстроўваюцца, як рэальныя падзеі, так і выдуманныя. Але ўсё разам гэта мастацкія творы, 55 гістарычна-мастацкіх мініяцюраў.

Кроніка Стыйкоўскага мае ў аснове жмудскую версію ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. Але ў Чачота ад яе засталося ўжо няшмат. А тыя балады жмудскай тэматыкі, што ўвайшлі ў "Спевы..." ніякай жмудскай версіі не прытрымліваюцца, а адлюстроўваюць жмудскія фрагменты нашай супольнай гісторыі.

## І. Пра Керна*, 1040 г.

Перш, чым ясна сонца ўзойдзе,
Ноч зямлю захіне,
Перш, чым скажуць аб народзе,
Ён у цемры гіне.

Так Літвы імглою скуты
Дзеі тых стагоддзяў,
Ды ад Керна і Гімбута**
Нам святло даходзіць.

Кернаў Керн узводзіць будзе
Побач Віллі-рэчкі,
Керн Літве, а Гімбут Жмудзі
Лад далі адвечны.

Перуна тут шанавалі,
Зніч-агонь палілі,
Дзікай мужнасцю буялі,
Смела ў бой хадзілі.

Аж да Полацка ў Падзвінні
Людства ваявалі,
Латышы ўзамен ліцьвінаў
Дома рабавалі.

Па вяртанні ўлёт напалі
На чужых ліцьвіны
І нявольнікаў пагналі
Пад свае хаціны.

Керн у грознай бітве згінуў,
Люд аплакваў страту,
Ён нашчадкаў не пакінуў,
Акрамя Паяты***.




На Дзяволтве пахавалі,
На гары. Дубочкаў
Там дубраву насаджала
Ля магілы дочка.

Гай дубовы разрастаўся,
Тлеў агонь там знічны,
Для ліцьвінаў пачынаўся
Шлях іх гістарычны.

* ***Керн*** *- легендарны ліцьвінскі князь, сын Куна, унук Палямона, заснавальнік легендарнай сталіцы Літвы Кернава.*
** ***Гімбут*** *- брат Керна.*
*** ***Паята*** *- дачка Керна.*

## **II.** Жывібунд* Дарспрунгавіч князь Літоўскі і Мантвіл** Гімбутавіч Жмудскі, 1205 г.

Пры Жывібунда і Мантвіла праве
Ліцьвін на полі
быў пры рупнай справе.
А, як на нівах жыта зелянее,
То край таксама весела квітнее.
Так і ліцьвінаў расцвіла краіна,
І моладзь біцца
рвецца за Айчыну.

З мядзведзяў, рысяў
шкуры за апратку,
А за прылбіцамі —
іклы на шапках.
На дзёрзкіх конях,
у сядле дубовым,
З адважным сэрцам,
з дзідай адмысловай
Выскокваў смела
ў Прыпяцкія плыні,
Здабычу вёз дадому наш ліцьвіне.

Адно Альговіч,
кіеўскім быў князем,
Дагнаў літву
з здабычай адным разам.
На слонімскіх палетках
бой звязалі,
Ліцьвіны ў пушчы
хутка паўцякалі.
Знаёмай сцежкай набягалі зноўку,
Даніны ж Кіеву — ніяк, нiколькі.

* ***Жывібунд*** *- легендарны князь, уладарыў Літвой пасля Керна.*
** ***Мантвіл*** *- легендарны князь, сын Гімбута, бацька Эрдзівіла.*

## **III.** Паята Кернаўна, жонка Жывібунда, каля 1220 г.

Ой, Паята — добра дочка,
Бацьку ўшанавала,
На кургане гай дубочкаў
Густа насаджала.

Ой, Паята — добра жонка,
Паў Літвы трымала,

А з пакорай Жывібунда
Слухала, кахала.

Ой, Паята — добра маці,
Сын яе — не песта,
Кукавейт гатоў у раці
Княжы гонар несці.

Ён з падзякай на магіле
Ў памяць для народу
Па-над Зослам* вобраз мілы
Выразаў з калоды.

Хоць той помнік згніў праз годы,
Ліпы паўзрасталі,
Да Паяты род за родам
Модлы тут складалі.

* ***Зосла*** *- возера, рэальнае месцазнаходжанне дакладна не высветлена*

## IV. Эрдзівіл* Мантвілавіч, 1217 г.

Памяць князя Эрдзівіла
Для ліцьвінаў слаўна, міла,
Ён прасунуў краю гоні
На абшары Занямоння,
Без вайны, крыві і хціўства,
А сярод дабразычліўства.

Як панішчыў хан Батыга
Край крывіцкі, далей ліха
Па-над Віслу падалося
І за іх муры ўзялося,
Эрдзівіл у Занямонне
Войска ўвёў на добрых конях.

Над высокаю гарою
Бачыць крушні пасля бою,
Там Наваградак геройска
Біўся супраць дзікіх войскаў,
Люд вакол цяпер блукае,
Князя прыбыцце вітае.

Замак зноў адбудаваўся,
Князь у горадзе застаўся,
А калі з арды пасланцы
Дань хацелі дабівацца,
Моцна іх ушанавалі,
Дзве стралы падаравалі.

Князь да Прыпяці кіруе,
Койдан-хан** туды ж прастуе.
Марны быў набег чужыны,
Мужнасць ён спаткаў ліцьвінаў,
Нібы пыркі адляцелі,
Узялі ў даніну стрэлы.

Эрдзівіл ахоўваў княства,
Цэліў раны гаспадарства.
Слаўная краіна стала,
Аж да Буга даставала.
Скончыў век у Наваградку,
Слёз па ім было ў дастатку.

* ***Эрдзівіл*** *- легендарны прашчур Радзівілаў, міфічны наваградскі князь.*

** ***Койдан-хан*** *- мангольскі хан, разбіты пад Крутагор`ем (Койданавым).*




## V. Мінгайла*
## Эрдзівілавіч, князь Літоўскі і Наваградскі

Полацк будзіць звон вячовы
З верхняе званіцы,
І да бою люд гатовы
На пляцы тлуміцца.

Князь Мінгайла ўсердаваны
Полацкім свавольствам,
Хоча помсціць палачанам
Ды з усім геройствам.

Дарам збройны люд храбрыцца,
Князь перамагае,
І крывіцкая сталіца
Браму адчыняе.

З таго часу ў вечнай згодзе
Полацк быў з Літвою,
І не помняць у народзе
Нават бойкі тое.

****Мінгайла*** *- легендарны наваградскі князь*

## VI. Скірмунт*
## Мінгайлавіч, князь Наваградскі, 1220 г.

Скірмунт, князь Навагародскі,
Звышгеройскі быў,
Хто б яго на пляц не клікаў,
Без разбору біў.

Першы быў Мсціслаў--
князь Луцкі,
Бою зажадаў,
Па-над Ясельдай навуку
Скірмунт князю даў.

Пінск і Тураў, нашы кнýствы,
Пад уладу ўзяў,
Пагубіў бацькоў уласнасць
Прагны князь Мсціслаў.

Балаклай, царок заволжскі
Пасланцоў прыслаў,
Дані з Скірмунта прывычнай
Цар той зажадаў.

Скірмунт тут, забыўшы меру,
Рассупоніў гнеў
Паслам вушы паабрэзваў,
Права не глядзеў.

Ды як змераў з Балаклаем
Сілы ў полі зноў,
Многа ў Койданаўскім краі
Зляцела галоў.

Балаклай там сам на полі
З мурзамі прылёг,
Скірмунт з войскам задняпроўскі
Вытаптаў быльнёг.

І Чарнігаў, і Карачаў
Ён забраў назад
І сыноў сваіх прызначыў
Там наводзіць лад.

Сам вярнуўся паўнаўладным
Па гарачых днях
І ў Наваградку пасадным
Свой закончыў шлях.

* *Скірмунт - легендарны наваградскі князь, міфічны прашчур Скірмунтаў.*

## VIII. Трайната* Скірмунтавіч , князь Наваградскі, Падлесся і Літвы Павілейскай

Рушыць Курдас з помстай смерці
Бацькі Балаклая,
За ім з Крыму, і з Заволжжа,
І з Нагаяў зграя.

Нішчыць край агнём і мечам,
Стаў Мазыр абклаўшы,
Там над рэчкай Акунёўкай
Стаў Літву чакаўшы.

Сцяўся смелы сын Скірмунта
З Курдаса ардою,
Ледзьве ўцёк Курдас памслівы
З цэлай галавою.

Мноству вязняў, што паспелі
Паланіць татары,
Князь ліцьвінскі, князь Трайната
Тут свабоду дарыць.

Ды не выйшаўся без стратаў
Гэты бой упарты,
Пісімунта там Трайната
Страціў і Любарта.

Згінуў князь Сямён там Друцкі,
Курдаса прыцяўшы,
Згінуў князь Андрэй там Луцкі,
Страху панагнаўшы.

Бо адна Літва час доўгі
З цэлае Еўропы
Адбівала аж за Волгу
Дзікіх орд патопы.

Як падсуседзі - краіны
Вычын іх не зганяць,
Людскасць мужных тых
ліцьвінаў
Ушануе памяць.

* ***Трайната** - тут легендарны дзед Міндоўга*

## IX. Барыс* Гінвілавіч Полацкі

Яшчэ ці ёсць той камень
над Дзвіною,
Што ад Дзісны
адной не далей мілі,
Дзе крыж і словы:
"Дапамож, о Божа,
Твайму рабу Барысу,
сын Гінвілу"

Прад Богам гнецца

кожны чалавеча,
Карона голаў крые ці сярмяга,
Барыс быў князем даўнім,
раннявечным,
А як скіроўваў моц сваю і вагу.

Чатыры цэркві збудаваў святыя,
І над Бярэзінай Барысаў ззяе,
Свабоды Полацку вярнуў старыя,
І шчасце, а не слёзы памнажае.

Так сэрца,
што набожнае папраўдзе,
Любоў Хрыста
якому шчыра міла,
Дабром да бліжняга
краінай радзіць,
Барыс так радзіў,
князь і сын Гінвіла.

* ***Барыс*** *- рэальны полацкі князь, заснаваў Барысаў, наўстанаўліваў гэтак званых Барысавых камянёў, але не Гінвілавіч, а з роду Рагвалодавічаў*

## XV. Гярмунт Скірмунтавіч 1271 - 1275 г., Гілінгін Гярмунтавіч, 1275 - 1278 г., Ромунд Гілінгінавіч,1279 Траб Гярмунтавіч, 1279 г.*

Хто жадае ведаць многа
Аб Літоўскім краі,
Пра нашчадкаў Свінтарога**
Я вам засліваю.

Гілінгін, Гярмунт, Траб, Ромунд
Мала што зрабілі,
Добра хоць, што ў тыя годы
Згоды не згубілі.

Бо бацькоў сваіх і кроўных
Памяць шанавалі
І Літву на шлях грунтоўны
Шчыра кіравалі.

Часам дзікія ліцьвіны
Польшчу рабавалі,
Парубежныя краіны
Пад мячом трымалі.

Гермунт горад нам пакінуў,
Што завуць Гярвяты,
Траб на памяць тут раскінуў
Нашых Трабаў хаты.

І што хочаце, каб стала
Вам яшчэ вядома,
Тога знаюць вельмі мала,
Хто сядзіць удома.

****Гярмунт Скірмунтавіч, Гілінгін Гярмунтавіч, Ромунд Гілінгінавіч, Траб Гярмунтавіч*** *- легендарныя, а, магчыма, недзе і рэальныя ліцьвінскія князькі, нашчадкі Свінтарога.*
** ***Свінтарог*** *- легендарны ліцьвінскі князь.*

## XVI. Нарымунт, Вялікі князь Літоўскі, Даўмонт Уцянскі і Трайдзень Рамунтавіч; Лаўрыш, альбо Рамунт Трайдзенавіч, манах, да 1283 г.*

Не жадай чужое жонкі,
Сэрцам чута праўда тая,
Што ж, не ўмеў ліцьвін чытаці,
Хай цяпер усё чытае.

Князь Даўмонт ды з Нарымунтам
Брат быў родны з родным братам,
На ліфляндскага магістра
Дочках дзвюх былі жанаты.

Як Даўмонтава спачыла
Жонка ў смутным, чорным годзе,
Нарымунт паслаў сястрыцу
Брату сэрца разлагодзіць.

Той у братаву ўкахаўся
І не выпусціў з Уцяны.
Нарымунт з вялікай раццю
Наваліўся нечакана.

Уцякаў Даўмонт і ў Пскове
Князем стаў, ды, быўшы хватам,
Ён па смерці Нарымунта
Так зрабіў з малодшым братам.

Толькі Трайдзень стаўся князем,
Быў Даўмонтам ён забіты,
Палачан і пскавіцянаў
На Літву той вёў адкрыта.

Ды вайсковы спрыт Лаўрыша
Ад паразы край ратуе,
І Літва таму Лаўрышу
Князем быць тут прапануе.

Ды Лаўрыш пастрыгу верны,
Князем быць ён не жадае,
Ён манах і манастырскі
Лёс сабе ён выбірае.

Пад Наваградкам, дзе Нёман
Між лугоў і дрэў віецца,
Зззяе цэрква ад Лаўрыша
І Лаўрышавым завецца.

* *У баладзе сабраны рэальныя і легендарныя князі ды падзеі з розных часоў. Даўмонт Пскоўскі - бацька Давыда Гарадзенскага, жыў у часы Гедзіміна. Лаўрыш або Войшалк, сын Міндоўга падаецца, як Рамунт Трайдзенавіч і г. д.*

## XVII. Куршы* з Судавіі ў часы Віценя, 1284 г.

Цягнуцца, быццам
жоравы з поўдню,
Куршы ад родных Судаваў,
Край свой, зраўняўшы
з голай пустыняй,
Кідаюць з горам, няславай.




Сурда вядзе іх вояў аддзелы
Братняй Літвой цераз поле,
Той правадыр,
даланёю што ўмелай
Збіў крыжаносца фон Голе.

Склаўшы астатнім
боствам ахвяру,
Сурда ў народа пытае:
"Ці тут паляжам,
ці з дзецьмі пойдзем
Мы да ліцьвінскага краю?"

Кліч: "Да ліцьвінаў,
мы — да ліцьвінаў",—
Глуха разнесла пустыня,
Край пакідаюць куршы радзімы,
Новую бачаць краіну.

З сэрцам братэрскім
тут іх прымалі,
І там, дзе сёння Эйшышкі,
Па-над Дзітвою тады збудавалі
Куршы сабе тут Куршышкі.

*Куршы - прускае племя, паводле паданняў пад націскам крыжакоў перасялілася ў Літву.*

## XVIII. Сурмін і Надам, 1290 г.

Здрада вечна здрадай будзе,
Тут супроць не скажуць людзі,
Пэцкаць ёй душу не справа,
Ды аповесць ёсць цікава
Пра паганага ліцьвіна,
Пра Надама і Сурміна.

Князь Сурмін Калайнай княжыў,
Як крыжак прыплыць наважыў
З хітрай выведкай сваёю,
Каб не даць Літве спакою.
Дык тады Сурмін Надаму
Загадаў прыбрацца ў даму.

Вось Надам наш, як кабета,
Добра ўбраўся, каб са свету
Крыжакоў звясці. Даўмеўся,
Па-над Нёманам усеўся,
Здаўся паннай хрысціянскай
Ды нявольніцай паганскай.

Каб "паненку" ўратаваці,
Лодзь пад бераг кіраваці
Крыжакі распачынаюць.
Рукі "дзеўчыны" хапаюць
Тую лодку, абдымаюць
І ля берага трымаюць.

А Сурмін з сваёй гурбою
Налятае той парою,
Не зважаючы на Бога
Крыжакоў тут да аднога
Без шкадобы выбівае,
Так віжоў ён паважае.

## XIX. Яжбут у часы Віценя, 1290 г.

Колькі можа здзеяць шкоды
Бляшка залатая,

Як зрабіла нам з Яжбута
Здрайцу бляшка тая.

Ён за грошы слаў даносы
Пра Літвы сакрэты,
Ён за грошыкі тэўтонаў
Край прадаў бы гэты.

На Літву палон з Мазоўша
Гоняць. Яжбут здрадай
Цёмным лесам да крыжацкай
Вывеў іх засады.

Перабег алень дарогу,
Гэты знак пужае.
Яжбут супраць забабонаў
Галаву стаўляе.

Эх, паставілі, як звыклі,
Як заўжды стаўлялі,
Па-над Нарваю буйныя
Галавы паклалі.

Крыжакам дабра падводы,
Яжбут долю мае...
Колькі можа здзеяць шкоды
Бляшка залатая!

Ды згрызоты ржа з'ядае
І сумленне будзіць,
Б'ецца Яжбут з крыжакамі,
Што ідуць са Жмудзі.

І прабіты вострай дзідай
Здрадны чалавеча
Крыжаку мячом двухвострым
Палец пакалечыў.

## XX. Зруйнаванне Рамновы* ў часы Віценя, 1294 г.

— На Рамнову, на Рамнову,—
Кліча комтур Лібэнцоле,
— Знойдзем золата і срэбра,
Знойдзем скарбаў там даволі.

Ну дык што ж яшчэ патрэбна
Для крыжацкіх прагных вояў,
Што пад ціхім знакам крыжа
На Літву пайшлі з разбоем.

Дрэвы толькі той парою
Шчэ пупышкі распускалі,
І вясной, а не вайною
Песні жаўранкаў гучалі.

Ноч упала на Рамнову,
Край ляжыць у сне цнатлівым,
Пад святыню Нёмнам ціхім
Падплывае злыдзень хцівы.

На валхвоў напалі сонных,
Сеюць смерць і хаты паляць,
Ну а золата крупінкі
Хіба толькі позірк жаляць.

Невялікая здабыча,
Больш галоў нявінных знята,
Сонца ўзносіць над Рамновай
Чорны крыж на дымных шатах:

Бачна з цвердзі Палямона,
Што ў Рамнове ноччу стала,
Больш не трэба абарона,
Бо святыня дагарала.




Заламалі толькі рукі,
Боль скаваў, а Нёмна хвалі
Крыжакоў так, як прынеслі,
Так з сабой назад забралі.

***Рамнова** - легендарная ліцьвінская паганская святыня, вядомая ў нашай літаратуры, як **Ромаў**. Але Чачот паказвае паходжанне назвы ад **Roma nowa**, таму ў перакладзе падаецца назва **Рамнова**.*

## XXI. Жмудзін Кайлім у часы Віценя, 1298 г.

Хто дубіну Кайліма
Паспрабуе плячыма?
Жмудскі лес - край радзінны
Тое страшнай дубіны.

Пан магістар Майнгардзе,
Ты ў апошнім нападзе
Атрымаў, чалавеча,
Той дубінай у плечы.

Дагадзіла дубіна,
І дух цела пакінуў,
Бо дубіну Кайліма
Хто ж спрабуе плячыма?

Жмудскі лес - край радзінны
Тое страшнай дубіны,
А Кайлім у тым лесе
Быў асілак найлепшы.

## XXII. Сурмін у часы Віценя, 1313 г.

Плыў Сурмін, ваяка слаўны,
Сто чаўноў з ім і лодзяў,
Плыў пад замак Юнігеду*
На падмогу залозе.

Там на чыстых Нёмна хвалях
Стала, як дом, галера,
Крыжакі з якой бясспынна
Па Літве страшна пераць.

Волава агнём кідаюць
Стрэльбаю перуновай,
Ды на смерць там не зважаюць
У залозе сто вояў.

Наляцеў Сурмін і ўцялі
Той галеры канаты,
Вір скруціўся, паляцела
Пад кустоў яна шаты.

І разбілася страшыдла,
Што агнямі кідала
І што замку Юнігедзе
І Літве пагражала.

Шкада толькі, што Сурмін там,
Страціў брата Сталдона,
Ды яго смерць баявая
Будзе слаўнай да сёння.

* ***Юнігеда**-Велона.*

***Пераклад з польскай Станіслава Судніка.***



# Алесь Стадуб

***Паэзія ў палёце вечным***
***За думкай, словам і***
***радком.***
***Яна на Шлях завабіць***
***Млечны,***
***На Маладзік дапне***
***пяшком.***
***І сфантазёрыць***
***Шлях да мэты,***
***І падбадзёрыць да пары.***
***Прад ёю моляцца паэты***
***На права вечнае***
***Тварыць.***

## Даруй

Як перад Маці і сумленнем,
Мая святая Беларусь,
Я прад табою на каленях
Назад грахі свае бяру.

Бяру, каб на кастры цярпення
Перагнаіць у забыццё
І недаспелае сумленне,
І ціхіх думак пачуццё.

Грашыў маўчаннем сарамлівым,
Калі за гонар твой у бой
Ісці я мусіў між руплівых
Сыноў, асвечаных табой.

Ты вечнасцю сваёй чаруеш
І перспектывай светлых мар.
Не ўсё я сам сабе дарую.
Што можаш – мне даруй сама.

## На аўтапрыпынку

Як у час Ісуса ці Майсея,
Сонца бралася з-за ўзгорка
Колам.
Кнігаўка крычала над аселіцай,
Жаваранак свой апробваў голас.

Як у час Скарыны ці Агінскага,
Пяткі стылі, стоячы на месцы.
Іншамаркі несліся ў бок Мінска,
Па афёры маючы на мэце.

Як у час гадоў юнацкіх Танка,
Вецер хмарай небакрай
зашорыў...
Падышла без грошай,
але скокну ў горад.




## Крыж

Не проста не лёгка
Паставіць крыж
На мэце сваёй і на слабасці.
... Ураз загарышся,
адчуўшы парыў
Радкоў рыфмаваных суладнасці.
Дарэмна чакаць,
што ўпарта ў сабе
Закрэсліць спакусу захочацца.
Намуляў ён мне
на мазольным гарбе
Мой крыж вершаванай творчасці.
Упрогся, хоць змогся,
радкуй і радкуй
З сляпою надзеяй напару.
Бывае, рэдактар "пагрэе" руку
Акрайцам скупым ганарару.
Зусім не да часу
ці нейкай пары
Стыхіяй сваёй
я пакораны...
Не лёгка, не проста
паставіць крыж
На ўпартым хаценні і гонары.

## Вечнасць

Мудрыя сведчаць:
Бог стварыў Вечнасць.
Вечнасць старая
Вечна стварае
Ў нас чалавечнасць.

Вечная Вечнасць
Дбае і дбала:
Шмат збудавала,
Шмат даравала.

У Вечнасці праўда,
Крыўда і згода.
Мы, як прапрадзеды,
З Вечнасці родам.

Вечнасць хрысціла
Жыць дзеля Вечнасці.
Дзе ж запазніўся ты,
Век чалавечнасці?

## Эпохі

Эпоха эпоху не любіць.
Эпоха эпосе не верыць.
Любая з эпох не марудзіць
Па-свойму кроіць і мерыць.

У кожнай свае прэтэндэнты
На вечнасць, на славу, на гонар.
У кожнай свае дэвідэнты,
Без іх мо было б яшчэ горай.

Не ўсе зарастаюць мохам
Мінулага часу
Адценні.
Ад тых,
Ад дзядоўскіх эпохаў,
Да нас пранікаюць гены.

І мы прывыкаем патроху
Да веры:
Часова гаруем.
А новая ў вочы эпоха
Смяецца...
І ціха кіруе.

## Нязгода

Нязгода ён
І ён засада.
Ён – палец злосны на курку.
Ва ўсім ён бачыць
Антыпраўду:
У думцы, слове і радку.

Паэзія ў палёце вечным
За думкай, словам і радком.
Яна на Шлях завабіць
Млечны,
На Маладзік дапне пяшком.
І сфантазёрыць
Шлях да мэты,
І падбадзёрыць да пары.
Прад ёю моляцца паэты
На права вечнае
Тварыць.

Яна крыўдуе на парады.
Яна ўхваляе сэнс пакут...
А ён шукае нейкай здрады
У думцы,
Слове
І радку.

## Нейтраліст

Я пра таго, што як не ўсе,
Хто на нейтральнай паласе.

Ён думае, ад бед уцёк.
Ён – ад людзей сябе адсёк.
Не, на нейтральную сляды
Не павядуць пар маладых.
Там не разгледзіце слядоў
Турботных, нескупых удоў.
Не ценявік, не камерсант
Не наслядзіць ніколі там.
Вар'ят-палітык? Ні адзін
Ад злосці ў бок той не глядзіць.
Туды й мяне свет не запрэ.
Я б там ад сораму згарэў.
Ну а старэйшы, а дзіця?
У іх да той – нуль пачуцця.
Але ж мы ведаем усе:
Ёсць нехта ўсё ж на паласе.
Яму і наш, і вось той бок
Чужы,
Як наш, і іхні Бог.

Дык хто ж, скажыце, там хаця
Ў баку ад тлумнага жыцця?

## Спакусы
М.Ф.

Пакутую на рубяжы
Дабра і зла, святла і ценяў.
Мяне хоць ты пасцеражы
Ад памылковых летуценняў.

Раздумваю, каб мець і ўмець,
Каб мары на рэальнасць
перайначыць,
Але што аддамо ўзамен
Каб акрылялі нас удачы?

Спакуслівa-- разбег набраць,
Зайсці на новую арбіту.
На рубяжы
Дабра і зла
Дарога ў неба не закрыта.

* * *

Напісанага
Я – не папялю,
Хоць і не горы стосаў.
Мой
Для ўраджаю вершаў
Плуг
Арэ, ды не нябёсы.

Плугуе
Ён
Праблемы дзён.
Але ці што ўродзіць.
Запустазелены ты дзёрн –
Народзе мой, народзе.




## Спрэчка

Рыгор Барадулін успамінае, як
Пімен Панчанка
дакараў яго забыцца за
прысвоенае
"акупацыя-акацыя"

Старэйшага ўключыўся
Злосці ток –
Траха не ўспыхнула
Канфлікту акцыя.
- Ты рыфму ў мяне крадзеш,
Браток.
- Якую?
- "Акупацыя-акацыя".

Пайшоў адзін
На вечны свой спакой,
Другога памяці працуе
Рацыя.
Нам блізкі гэты,
Блізкі нам і той,
Як радасць веснавой акацыі.

* * *

Запрог мяне і сёння
ранак сіні
вялічыць
новых думак арсенал,
каб беларускасць мускуліла
сілы,
каб род славянскі
вечны
не сканаў.

* * *

Перад намі бясконцая даль,
Па-за намі – дыханне вякоў.
Беларусь мая – чулы радар
Да спакуснікаў і сваякоў.

## Не наракай

Не наракай на соль, на раны.
Нас выпадкі падводзяць часта.
Не,
Лёсам мы не пакараны.
Мы –
Пакараны часам.

Не частка хвалі варухлівай –
Мы нейкі бераг мора.
Жыццё – прылівы і адлівы,
Жыццё – і штыль, і штормы.

Мо невядома і нябёсам,
Дзе дабрыні запасы.
З табой – не пакараны лёсам.
Пакрыўджаны мы часам.

## Пасмы

Айчыны між далоняў,
Як пасмы даўніны.
Я хто ж сягоння коні?
Хто ж сёння фурманы?

## Пацалунак

Ён – немінучая адданасць.
Ён – асалоды неспазнанасць.
Ён – супярэчлівасць і згода.
Ён – і давер, і наша годнасць.
Ён – нечаканасць і чаканне.
Ён – добрае бярэмя цудаў.
Ён – ключ
да будучых спатканняў.
Ён – дотык здрадніцкі іюдаў.






* * *

Ах, святая твая прастата!
Што нам выдумкі голыя
доўжыць?
Успаміны мо лепш пагартаць
Пад грыбны і дрымотны
дождж ык.

Ад рукі было цёпла руцэ,
Весялей ад усмешкі ўсмешцы,
Жартаўліва вірлівай рацэ
І задумліва сцішанай сцежцы.
Нам зязюля лічыла сваё,
Мы ж усё пералічвалі самі.

Зараз верай, цярпеннем, грахамі
Мы ўзаемна даўгі аддаём.

* * *

З табой фармальна не чужыя,
Але, як ты, і я гатоў,
Пра што зязюля варажыла,
Змахнуць з лічыльніка гадоў.

Старонкі паўсумеснай кнігі
Іначыць браліся не раз.
Вясна надзей плытуе крыгі,
Каб паўтарыць у іншых нас.

## Горад

Ты – неспазнанае мора.
Ты – мой міраж і крыж.
Ты – маё заўтра і ўчора.
Ты – мой узлёт і абрыў.

Ты і спакуса на шчасце.
Вырай мой, страх мой і рай.
Думаць цяпер па часе,
Хто з нас каго выбіраў.

Тут па дабро – мо ад ліха –
Чый не прычальваў паром.
Тут спазнаваўся з кілішкам
За развітанне з сялом.

Тут у людскіх гушчэрнях
Здолей і тлець, і гарэць.
У традыцыйных чэргах
Я пастарэў на чвэрць.

Горад, ты – вір няспынны
Радасці, смутку, надзей...
У горад адзінага сына
Сумная маці вядзе.

## Прэм'ера

Жыццё –
Бясконцая прэм'ера.
Мы гледачы
І рэцэнзенты.
А хто больш мусіць
Сцэне верыць:
Акцёры ці апладысменты?
Дзе праўды больш,
Дзе крыўды меней:
У вас
Ці --у раздумнай зале?
Скажыце,
Хто ж упартай жменяй,
Што гаркаціць,
Панасявалі?
У нас і ў вас
Свае кулісы
І выхады і мезансцэны.

Адным
Нядаўна
Мы кляліся.
Сягоння іншых
Ціха цэнім.
Жыццё -
Бясконцая прэм'ера.






## Зміцер Шах

*Мовы сваёй не цурацца,*
*верным быць*
*продкам-- клянусь!*
*Беларус я ,*
*ім век заставацца.*
*Жыве*
*Беларусь!*

## Я не хачу ў дурдом

Спявай свае песні,
будзь скамарохам,
гуляй па жыцці,
пакуль ёсць змога,
бо потым прыедуць
у машыне вар'яты
ды пойдзеш ты з імі,
у кашулю заціты.
Я не хачу
ў дурдом.

Белыя сцены,
і бела падлога,
і вунь санітар,
ён стаіць ля парога.
Тут думкі не ходзяць,
дурнымі нас лічаць,
тут геніяў --годзе,
гісторыю пішуць.
Я не хачу
ў дурдом.

Зноў на свабоду,
нам дзверы адчыняць,
даўшы параду,
уласнасць не нішчыць,
спявай свае песні,
будзь скамарохам,
гуляй па жыцці,
пакуль гэта можна.
Я не хачу
ў дурдом.

## Я веру!

Паглядзі на абшары лясныя,
паглядзі на вежы дзядзінцаў,
бо не ведаю іншай краіны,
дзе бы я пажадаў нарадзіцца.

Зноў мы разам! Восеньскі край,
сонцам сваці ды промнямі грай,--
нам пажадаюць лясныя багі,
гэй-гэй-гэй, еі-е-і.

Адраджаецца дзедава вера,
узнімаецца волат-Пяруне,
разумею я – хто я і дзе я,
старажытнасць нам веліч даруе.

Адрачыся-- і зніч загарыцца,
над тваёю забітай душою,
што счарнелая будзе насіцца,
над адвечнай сусветнай імглою.

Здрада роду караецца смерцю,
заліваецца морам- крывёю,
ды пачвары вас вольныя з`есці,
што жывуць у глыбіні пад
зямлёю.

Але веру – ізноў адрадзіцца
старажытная продкава годнасць,
і над тымі хай зніч загарыцца,
хто ўчыніць ёй нейкую
подласць

11.03.2000 г.

### Ю. Братчыку

Я зорак з нябёс не здымаю,
бадзягай я проста стаў,
кашуля астатняю стала,
я ў зрэб`і, з аблічам Хрыста.

Стамлёны жыццём і галечай,
я крочу на водбліск святла,
каханне ўсе раны залечыць,
якога наогул няма.

Я ведаю сэнс памяркоўны,
які мне ўсе пяты злізаў,
світанак надыйдзе ўсё роўна,
хоць цемру я сёння шукаў.

У сэрца ўрываецца рэха
надзеяў, рэлігій ды вер,
якія згубіў, недарэка,
прыдбаўшы да іх недавер.

Што заўтра, што сёння –
ўсё роўна,
бо ногі збіваюцца ўшчэнт,
я бачу – усходзіць поўня,
каб вочы пабачылі свет.

11.03.2000 г.

## Жыве Беларусь!

Жыць нам усім патрэбна,
ні чорта, ні смерці я не баюсь,
зычна выгыркну ў неба:
Жыве Беларусь!

Бачу прасцяг неабсяжны,
за Радзіму начамі шалюсь,
чуем подых цяжкі:
Жыве Баларусь!




Мовы сваёй не цурацца,
верным быць продкам-- клянусь!
Беларус я , ім век заставацца.--
Жыве Беларусь!

9.06.97 г.

## Кожны сваё атрымае

Над Радзімай маёй заўжды сонца,
у роднай краіне спяваюцца песні,
супастатаў заўсёду б'юць моцна
і кожны смяецца,
хоць кожнаму цесна.

Ты ведаеш смачную каву,
што п'юць надвячоркам у хатах,
але нясём мы Божую кару,
як крыжакі крыжы на тых латах.

Колькі храмаў спалілі,
колькі святых абабралі,
нячыстаю сілай жылі,
чырвоную веру ўсім уціралі.

Чужынцаў сваімі не зробім,
крыжы на сэрцы не змяняем,
шчасця мячом не аздобім,
але сваё ў жыцці атрымаем.

29.08.97 г.

## Бог адзін

Я чую подых той халеры,
што кажа хлопец малады,
вы не прымайце людзі веры,
аб якой баяць святары.

Хто ён такі? Сектант ды годзе,
я вам скажу, што Бог адзін,
які пятнаццаць год ды болей
мяне ад гора гарадзіў.

Але я чую говар просты,
і прыкра робіцца ў душы –
нашто прыняўшы веру боску,
Хрыстос памёр на тым крыжы.

8.09.97 г.

## Дэградацыя

Нам не трэба песень,
нам не трэба слоў –
мы – ёсць ваўкалакі,
п`ём жывую кроў.
Крочым праз дзяцінства,
любім жартаваць,
але ж тыя жарты,
полымем гарэць.
Грошай болей будзе:
будзем забіваць.
Працы не жадаем –
станем рабаваць.
Што ж гэта такое,
дзе ж тая злосць,
хто мы ёсць такія? –
дэградаты ёсць.

6.11.97 г.






## Нерухомасьць

Зялёныя вочы, на белай паперы
промні гуляюць па целу ўздоўж,
сонца натхняе праз мокрыя веі
думкі салодкія, сны ды не больш.

Стамлённыя рукі,
ды ціха змаўчалі
ногі застылі, наводзячы стрэс
пакуль не памерклі,
ды вочы шукалі
дзе ж разбуральны
пачаўся працэс.

2.12.97 г.

## Беларусь...

Чаму ты стаіш ля дарогі
чаму не кранаешся ў свет
не чакай ні адкуль дапамогі,
нацярпеліся колькі ўжо бед.

Трэба з месца напэўна сарвацца
і некуды ў даль паляцець
хопіць, людзі, вякамі бадзяцца
хлапцы, разламеце клецькі.

Хай шчасце загляне пад дахі,
хай заўжды квітнее наш край!
Выйдзем, браце,
пад родныя сцягі,
за сваю Беларусь уставай.

27.02.97 г.

## Каралева бясоннае ночы...

Каралева бяссонае ночы,
мае вусны і вусны твае,
каралева бяссонае ночы
сваё шчасце дарую табе.

Твае вочы, як знічкі ў цемры,
твае рукі, як хвалі плылі,
побач нас толькі сцены,
шпалеры,
дзе з табой мы калісці жылі.

Зараз мары агортваюць твары,
думкі мрояцца ў цемры нябёс,
дасягаем лагодных абшараў,
дзе не чутна ўжо грому калёс.

Мы ўжо там, дзе спяваюць багіні,
дзе свавольна смяюцца багі,
дзе спакусаю водар маліны,
дзе ніколі яшчэ не былі.

Патанулі ў той асалодзе,
у якой не разгледзіш віны,
на абодвух адно асяроддзе,
ці паўторыцца гэта калі.

Колькі цягнецца гэтае шчасце,
я не ведаю, колькі ўжо год,
можа трэба хутчэй пакласці
канец плыні нашых прыгод.

Я кахаю цябе, каралева,
адпускаю ў цемру начэй,
адпускаю цябе, каралева,
каб калісьці вярнуцца яшчэ.

1998 г.






## Уладзімір Васько

***Іншы раз яна свядома плаўна пахіляла сваю галаву набок, і тады яе чорныя густыя, як дым ад полымнае мазуты, валасы казыталі Коску твар і ён, бядотнік, аж млеў, раставаў на вачах, бы цукар. А яна сама сабе засякла: папалася рыбка! Цяпер толькі б не сарвалася з восціка. І рыбка не сарвалася...***

### Знаёмства
**(Урывак з аповесці "Не згіне на зямлі чалавек")**

За пятнаццаць год пражывання ў горадзе Коска прывык да цывілізаванага побыту, да вулічнай мітусні, шуму машын, мноства крамаў, прыгожых вітрын і зараз не хацелася з усім гэтым развітвацца. Адчуванне было такое, бы выпадала з сэрца штосьці самае дарагое і любае. Праходзячы каля інтэрната, у якім ён некалі жыў халасцяком, Коска неяк не на жарты расчуліўся. Ён абвёў позіркам вокны пяціпавярхавой будыніны, спыніўся на сваім акне, якое размяшчалася на другім паверсе, як раз насупраць уваходу ў інтэрнат, і прыгадаў, колькі там прайшло незабыўных вечароў у іх вясёлай халасцяцкай кампаніі, колькі было выпіта віна, прагаворана пра дзяўчат. Здаецца ,той пакой, у якім яны жылі, ніколі не ведаў суму. Хлопцы падабраліся здаровыя,

улюбёныя ў жыццё, пры магчымасці ні ў чым сабе не адмаўлялі. А ўнізе, дзе размяшчаўся чырвоны куток, па вечарах – у суботу і нядзелю – праводзіліся танцы. На адзін з такіх вечароў як раз і прыйшла яна, Анюта, ягоная сённяшняя жонка, якая толькі што выкінула яго са сваіх апартаментаў і сказала, каб больш дамоў не вяртаўся.

Тады ,ён добра помніць, абвясцілі дамскі вальс, і яна запрасіла яго на танец. Укормленая, грудастая, дыхаючы цяплом і жарам, яна шчыльна-такі прыпала да яго – і хлопец нібы захмялеў ад буйнай жаночай ласкі. Па заканчэнні танцу ён нават раскланяўся перад ёю, выказваючы гэтым сваю ўдзячнасць за такую ж ўвагу і цеплыню. Сыйшоўшы ў кут, Коска не раз прыкмячаў, як яна стрыкала ў яго бок сваімі чорныммі агністымі вачыма, і нават пабойваўся, каб яе ў яго не перахапілі. Як толькі пачынала гучэць музака, ён асцярожна, бы кот да мышы, краўся між хлопцаў да яе і запрашаў на танец. Не адмаўляла.

У час спакойнага танцу, калі Коска нясмела, бы сароменчыся яе, распачынаў абы-якую размову, яна ахвотна падтрымлівала яго і падагравала. Пры гэтым яе сакавітыя пульхныя вусны і чорныя агністыя вочы канчаткова паранілі яго ў самае сэрца. Іншы раз яна свядома плаўна пахіляла сваю галаву набок, і тады яе чорныя густыя, як дым ад полымнае мазуты, валасы казыталі Коску твар і ён, бядотнік, аж млеў, раставаў на вачах, бы цукар. А яна сама сабе засякла: папалася рыбка! Цяпер толькі б не сарвалася з восціка. І рыбка не сарвалася: у гэты ж вечар амаль на край горада Коска паплёўся за Анютай.

А на двары стаяла суворая марозная зіма. Пухкі снег на дрэвах і зямлі іскрамі пабліскваў у святле вулічных ліхтароў і казытаў яго ўяўленне аб шчаслівым сямейным жыцці. Іншы раз Коска падтрымліваў Анюту і нават цягнуўся да яе вуснаў, каб пацалаваць яе, і хоць яна спрытна выкручвалася, пах французскіх парфумаў ад яе твару і пясцовага каўняра раскладваў Коску на лапаткі.

У сваю кватэру на першы раз Анюта яго не пусціла, але каля дзвярэй, на лесвічнай пляцоўцы, з паўгадзіны з ім пастаяла. Размаўляла паўшэптам: баялася, мабыць, каб не пачулі суседзі.

Ён і яшчэ рабіў некалькі спроб пацалаваць яе, але яна ўсё выкручвалася. А на развітанне сама такую ўляпіла яму буську, што ў Коскі аж вочы на лэб палезлі.

Апамятаўшыся ён запытаў:




- Як нам далей быць?

- Можаш пазваніць мне па тэлефоне 2-45-45.

- Во, як раз добра запамінаць. Я з сорак пятага года нараджэння.

- А двойка? – усміхнулася яна. – Мабыць, на "двойкі" займаўся?

- Усяго хапала.

- І ўсё ж цікава ведаць, - занепакоіўся Коска, - гэта твой хатні тэлефон ці працоўны?

- Працоўны, -адказала яна. – Я працую ў швейным атэлье. Мяне там паклічуць.

- Шпулька значыць?

- Ну навошта так ганьбіць маю прафесію? – акругліла вочы Анюта.

Коска папрасіў прабачэння.

З мінуту пастаялі моўчкі, углядаючыся адзін аднаму ў вочы. Коска і не ведаў, што рабіць напрыканцы: ці проста так паварочвацца і ісці, ці зрабіць яшчэ адну спробу пацалаваць Анюту. Выручыла яго яна сама:

- Ну ўсё... На сёння хопіць.

Яна дастала з кішэні паліто ключык і адамкнула замок. Пераступіўшы парог, зрабіла артыстычны жэст рукою і міла прамовіла:

- Чао...

- Чао, - адказаў Коска, мала на той час яшчэ цямячы, што абазначала гэтае слова.

Ён спускаўся ўніз па лесвіцы, бы падымаўся, у душы, у гору, да свайго шчасця.

А на двары ўсё таксама хораша пабліскваў срэбнымі іголкамі пушысты снег, яшчэ ярчэй трымцелі ў небе марозныя зоркі, і ўсё гарэла і спявала ўнутры Коскі. Ён адчуваў, як гарыць яго твар, як гараць яго мазолістыя рабочыя рукі, і як прыемна пахнуць яны дарагімі французкімі духамі.

Ішоў Коска дамоў, нібы п'яны кот, які нанюхаўся на балоце дурманнай валяр'янкі. А ноччу ён адчуваў на сабе дотык гарачых грудзей Анюты, яе прыемнае духмянае дыханне і ўсё той жа раздражняльны пах французкіх духоў...



## Валянцін Таўлай

*Ідзе за годам год,*
*Сівеюць людзі, хаты, -*
*І ўсё ў ярме народ,*
*А над шляхамі – краты.*

*І ўсё фарбуюць брук*
*Крыві ахвярнай плямы.*
*Чуваць астрожнай*
*брамы*
*На ўсю краіну грук.*

* * *

Гэта ўсё – знаёмыя шляхі.
Аглянешся – затанулі ўдалеч.
На адных – палын расце глухі,
На другія – зоры ападаюць.

Пры юнацтве, што здалёк звініць,
І арлы садзіліся ахвоча,
Часам – каб да лёту заманіць,
Часам – каб выдзёўбваць вочы.

Але мы, улюбіўшыся насмерць
У шляхі, пракладзеныя ў заўтра,
Навучылі песню разумець,
Што ў змаганні і загінуць варта.

Вокам на шляхі куды ні кінь, -
Тлеюць косці звестуноў
прадвесня
І ляжаць жалобныя вянкі
Анямелых з болю
верных песень.

Не даклічацца ніякая вясна, -
Голас расплывецца
ў чыстым полі,
Не збудзіўшы стомленнага сна
Змагароў, загінуўшых за волю.

Але хай высокі маладняк
Боль магіл кране
карэннем шчырым, -
І насустрач заўтрашняга дня
Нашы песні зазвіняць
з-пад жвіру.

*Ліда, 1941г.*




* * *

Ідзе за годам год,
Сівеюць людзі, хаты, -
І ўсё ў ярме народ,
А над шляхамі – краты.

І ўсё фарбуюць брук
Крыві ахвярнай плямы.
Чуваць астрожнай брамы
На ўсю краіну грук.

І маці не адна
Глытае моўчкі слёзы:
Зноў сына па дарозе
Пагналі ў кайданах…

Ад гэтае пары
Ўдавою тужыць ніва,
Каню гнядую грыву
Расчэсваюць вятры…

Мо вернецца, мо згіне
Таварыш дарагі,
Услед за ім другія
Ўзняліся, як сцягі.

Той самаю дарогай
Яны вядуць народ,
І ўжо да перамогі
Бліжэй на цэлы год.

***в. Рудаўка***
***1 студзеня 1929 г.***

## Напрадвесні

Уздыхнулі Нёмана грудзі:
- Вясна будзе! Вясна будзе! –
Покліч скалыхнуў паветра,
Адгукнуўся ў пушчы нетрах,
І расплыўся, і загінуў…

Наўздагон – свой покліч кіну:
Рэхам хай плыве шырокім,
Несучы прывольна, лёгка
І мяне на гулкім крыллі…

Жаўрукі асерабрылі
Сцежку сонечнаму ранку…
Жаўруковыя вяснянкі –
Быццам звонкія праменні…

І стаю я ў захапленні,
Неразгаданным і новым,
Поўны цёплае любові,
І гатоў гарэць, загінуць
За вясну маёй краіны…

Радасна ўздыхнулі грудзі:
- Адчыняйце хаты, людзі!
- Адчыняйце сэрцы, людзі!
- Вясна будзе! Вясна будзе!

***Вільня, 1928г.***

## Настаўніку

Стаяць ля маладых гадоў,
Ля чалавечага дзяцінства –
Вялікі гонар, светлы доўг
Настаўніцтва і мацярынства.

Спачатку ў сэрцах прабудзі
Цягу і смагу да асветы,
Пасля – задуманых вядзі
Аж да крыніцы чыстай, светлай.

На ростані шляхоў-дарог,
Абвеяных паходным пылам,
Народ навекі нам збярог
Крыніцу мудрасці і сілы.

Ты чэрпаць навучы з глыбінь
Жывучую ваду рукою,
Каб наш народ і край любіць,
Мудрэць і харашэць душою.

*в. Ваўкавічы,*
*23 жніўня 1942г.*

## Малой сястрычцы

Пакуль, сястрычка, падрасцеш
І шлях пратопчаш свой жыццёвы, -
Напамяць вывуч гэты верш,
Які складаю шчырым словам.

Не зразумееш мо мяне –
Пішу табе яго навырост,
Я знаю: гэты дзень міне,
З якога верш сягоння вырас.

Магчыма, толькі ён адзін
І астанецца жыць на памяць,
Як рэха дальняе гадзін,
Што сэрца мне гнятуць і раняць.

Тады, сястрычка, успамяні
Ўсіх, хто з бою не вярнуўся,
Каб намі высненыя дні
Зноў паплылі над Беларуссю.

*Ліда,*
*23 лютага 1943г.*








## Людміла Шот

***Родная мова,***
***нібы крыніца***
***з чыстай***
***студзёнай вадой,***
***быццам раса***
***серабрыцца,***
***ажыўляе ўсё раніцой.***

***Родная мова –***
***голас матулі,***
***кожнае слова***
***з далёкіх часоў.***

### Родная мова

Родная мова,
нібы крыніца
з чыстай
студзёнай вадой,
быццам раса серабрыцца,
ажыўляе ўсё раніцой.

Родная мова –
голас матулі,
кожнае слова
з далёкіх часоў.

Яна, як вясёлка
на небе ззяе,
гучыць, як песня,
ў сэрцы маім.

Хто не кахае яе,
той не знае
ўсёй прыгажосці
мовы маёй!

* * *

Птушкай хачу я стаць,
Каб узляцець высока.
Птушкай хачу я быць,
Каб паляцець далёка.

Хачу я маленькай быць,
Каб мама была маладая.
Не трэба ў госці хадзіць
Туды, дзе яна чакае.




# ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЕТАК

Матыльком мне б пархаць
Найпрыгажэйшым у свеце,
Толькі адна бяда,
Каб не злапалі дзеці.

Някепска і зорачкай быць,
Толькі б бліжэй да месяца,
Карагоды вадзіць
З ім на небе хочацца.

А можа звыклым рамонкам?
Хто небудзь сарве, паварожыць,
З бялюсенькім пялёсткам
Хай шчасце ў хату ўваходзіць!

* * *

Свецяць на небе зорачкі –
Маленькія агеньчыкі,
Нібы ў руках ліхтарыкі,
Трымаюць чалавечыкі.

Усе яны прыгожыя
Пры добрым надвор'і,
І бачна, як сузор'ямі
Водзяць карагоды.

Карагод Мядзведзіцы,
Стральца і скарпіёна...
Можа гэта дзеці?
Бо іх вельмі многа.

Дзеці, на планеце --
Блакітнага неба,
Як вы там жывеце?
Вам, пэўна, пра нас вядома!

* * *

Люблю бацькоў,
сваіх дзяцей,
люблю я сонечны прамень.
Шумлівы лес,
пахучы бэз,
за загуменнем ядлавец.

Люблю я снег,
люблю я дождж…
вось бы ўзляцець
мне да нябёс.
Усё жывое зберагчы
і даць спакой
маёй Зямлі!

* * *

Зіма!
Можа паведаміш,
куды адыходзіш ты?
Я так прывыкла,
ты ведаеш,
да тваёй белізны,
да тваіх маразоў
з завірухамі
з шчодрымі снегападамі,
да вакол з узорамі,
з гурбамі непраходнымі,
катка каля хаты,
дзяцьмі што багата!
Лыжнёй на ўзлеску,
па беразе рэчкі…

Скажы!
Куды адыходзіш, зіма?
Калі вернешся,
я знаю сама!




## *Ганна Рэлікоўская*

### Бацькоўскае шчасце

Як птушаня ў гняздзечку,
як кураня да курыцы,
дзяўчыначка ў пасцельцы
бліжэй да мамы туліцца,
сваёй маленькай ручкаю
за шыю абдымаецца.
Магчыма, гэта шчасцем
бацькоўскім называецца.

### Чысцюля

"Ірыначка, Ірынка,
маленькая дзяўчнка,
дзяўчынка-шчабятушка,
ці мыла свае шчочкі?
Ці мыла свае вочкі?" –
пытаюся, усміхаюся,
з Ірынкай забаўляюся.

Ірыначка мне кажа:
"Я ўся была ў сажы,
я мыла свае шчочкі,
і вушкі два, і вочкі.
Я ручкі доўга мыла,
аж не хапіла мыла".
Якая малайчынка,
Дзяўчыначка – Ірынка!

### Чамучка

Язычок той не прыціснуць
і пытанняў не спыніць:
Чаму дождж раптам сціхнуў?
Чаму сонейка не спіць?
Чаму вокны адчынілі,
напусцілі камароў?
Чаму супу наварылі
з памідораў, буракоў?

Па дарожцы будзе бегаць
то ўзад, то ўпярод.
Чалавек усё хоча ведаць,
бо яму ўжо пяты год!






*Днём ясным для цябе*
*заўжды два сонцы*
*свецяць*
*І вабяць да сябе*
*сваёю пекнатой,*
*А ноччу - поўні дзве,*
*бо для цябе на свеце*
*Нікога больш няма,*
*апроч Багіні той.*

## Ігар Воран

### БАГІНЯ

музыка і словы Ігара Ворана
пераклад Міхася Мельніка



кі - ту ад ня - бёс і чыр - ва - ні ра - бі - ны ёй

па - да - ры кал - ле ня - ба - ча - най кра - сы пяш -

чот - на - ю ру - ко - ю з пен - на - га пры - бо - ю дат -

кні - ся да я - е та - кіх ча - роў - ных рук пра -

нік - ні - ся на - век лю - боў - ю не - зям - но - ю да

по - зір - ку ва - чэй і па - лы - мя - ных губ.

Вет - ра це - ці - вой на - цяг - ну - тай гул - лі - ва хай

вы - пус -ціць стра-лу на - пе - вам са - лаў - я

па - спы - тай - це вы ас - ко - міс - ты п'ян - лі - вы мя -

до - вы смак люб - ві, та - ем - нас - ці быц - ця!

## БАГІНЯ

Кастрычніцкім лісцём ахутай стан Багіні
Ды з зорнага дажджу і кропелек расы
З блакіту ад нябёс і чырвані рабіны
Ёй падары калле нябачанай красы.

Пяшчотнаю рукою з пеннага прыбою
Даткніся да яе такіх чароўных рук,
Пранікніся навек любоўю незямною
Да позірку вачэй і палымяных губ!

Днём ясным для цябе заўжды два сонцы свецяць
І вабяць да сябе сваёю пекнатой,
А ноччу - поўні дзве, бо для цябе на свеце
Нікога больш няма, апроч Багіні той.

І з траваў лугавых, вясёлкавага лета,
Прывабны сшый кілім і кінь к яе нагам.
Застыў дрымучы лес у мантыю адзеты,
Прыстанішчам уцех няхай паслужыць вам!

Паветра, цецівой нацягнутай гулліва,
Хай выпусціць стралу напевам салаўя,
І паспытайце вы аскомісты, п`янлівы
Мядовы смак любві, таемнасці быцця!




**_Пётр Калбыка ._** Нарадзіўся ў в.Шынкоўцы, што пад Астрына, былога Лідскага павету (зараз Шчучынскі раён) у 1926 г. Вучыўся ў Шчучынскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Загінуў 6 лютага 1945 г. ва Ўсходняй Прусіі. Вершы друкуюцца ўпершыню.

**_Данута Бічэль._** Нарадзілася ў в.Біскупцы пад Лідай у 1937 годзе.Скончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут. Настаўнічала. З 1982 года працуе ў Гарадзенскім педагагічна-археалагічным музеі, з 1995 года - дырэктар музея Максіма Багдановіча ў Горадні. У 1999 г. звольнена. Старшыня Гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдала зборнікі вершаў «Дзявочае сэрца» (1961), «Перапёлкі» (1968),«Нёман ідзе» (1964), «Дагані на кані» (1973), «Габрынка і Габрусь» (1985), «Гараднічанка» (1993), «Снапок» (1999), «Нядзелька» (1999). А зборнік «Ты - гэта ты» (1976), гэта працяг літаратурных дыялогаў з Васілём Быкавым і Ларысай Геніюш. За зборнік «Дзе ходзяць басанож» (1983) - атрымала дзяржаўную прэмію Беларусі. Жыве ў Горадні.

**_Вера Ляцецкая._** Нарадзілася ў вёсцы Язвіны Уздзенскага раёна, Менскай вобласці. Скончыла Менскі польскі педтэхнікум. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Жыве ў Лідзе. На пенсіі.

**_Юры Карэйва._** Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Лідзе. Скончыў філфак Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы. Настаўнічаў. Друкаваўся ў рэспубліканскім перыядычным друку, зборніках паэзіі "Шлях" і "Кола".

**_Дзяніс Летуноўскі._** Нарадзіўся 21 красавіка 1981 года ў Лідзе. Піша на рускай мове. Першыя вершы створаны ў 9 год. Друкаваўся ў рэспубліканскай і мясцовых пераёдыках. Аўтар кніг вершаў "Вечнасць" (1996 г.), "Працяг" (1997 г.), "Я застаюся з табою" (1999 г.). Аўтар дзесяткаў песень. Студэнт Літаратурнага інстытуту імя М. Горкага (Масква). Падрыхтавана да выдання кніга вершаў "Рубеж тысячагоддзяў".

**_Віктар Бачароў._** Нарадзіўся ў 1950 годзе ў горадзе Краснаярску. Скончыў філалагічны факультэт педагагічнага інстытута імя Я.Купалы. Працуе дырэктарам сярэдней школы ў г.Ліда. Аўтар пяці зборнікаў паэзіі і прозы.

**_Аркадзь Мігдал._** Нарадзіўся ў Лідзе 11 сакавіка 1911 года. З 1943 года па 1945 год працаваў ў Інстытуце фізічных праблем АН ССР, у 1945-71 гг. у Інстытуце атамнай энэргіі, з 1971 года у Інстытуце тэарэтычнай фізікі АН СССР. З 1944 года - прафесар Маскоўскага інжынерна-фізічнага інстытута. Член-карэспандэнт АН СССР (1953), акадэмік АН СССР (1966). Памёр у Маскве 9 лютага 1991 года.

**_Іван Гушчынскі._** Родам з вёскі Парэчча Лідскага раёна. Скончыў Гарадзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Жыве і працуе ў Лідзе. Друкуецца з 1974 года.

**_Юля Гушчынская ._** Нарадзілася 15 лютага 1988 годзе. Вучаніца 7 класа Мінойтаўскай сярэдней школы.

Друкуецца ўпершыню.

**_Мікола Лазоўскі._** Нарадзіўся 20 лютага 1926 года ў в.Лазяны Лідскага раёна. Самадзейны мастак. Друкуецца ў перыядычных выданнях.




# НАШЫ АЎТАРЫ

***Міхась Мельнік.*** Нарадзіўся 7 лістапада 1949 года ў вёсцы Майсевічы Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факкультэт Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы. працуе выкладчыкам беларуская мовы і літаратуры ў Лідскім дзяржаўным педагагічным каледжы. Выданік адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Вершы, публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы друкаваў у розных перыядычных выданнях, выступаў на радыё і тэлебачанні.Аўтар паэтычнага зборніка“Скрыжаванне”(Мінск, МФ “Беларускі кнігазбор”, 1996 г.)

***Ян Чачот*** (1796-1847 гг.)Нарадзіўся ў маёнтку Рэпіхава каля в.Крывошын Ляхавіцкага раёна. Вучыўся разам з А.Міцкевічам у Наваградскай дамініканскай гімназіі, затым - у Віленскім універсітэце. Адзін з заснавальнікаў таварыства Філаматаў. Займаўся зборам беларускага фальклору. Аўтар шасці тамоў «Вясковых песень з-над Нёмна і Дзвіны» (Вільна 1844-1846 гг.), у якіх змясціў каля 40 арыгінальных твораў на беларускай мове.

***Алесь Стадуб.*** Родам з Меншчыны. Дзевяць год кіраваў мастацкімі харавымі калектывамі. Працаваў у сродках масавай інфармацыі. Зараз - у сістэме адукацыі. Жыве ў Лідзе.

Даўно выступае ў абласным і рэспубліканскім друку.

***Зміцер Шах.*** Нарадзіўся 25.11.81 году ў Менску. Бацькі: маці – дзіцячы ўрач, бацька – інжынер тэлеграфу. Амаль усё жыццё пражыў у Лідзе. Скончыў школу № 11. Паэзіяй займаецца з 8-га класу. Зараз – студэнт Гарадзенскага Дзяржаўнага Універсітэту імя Я.Купалы (матэматычны факультэт). Друкаваўся ў “Лідскай газеце” і часопісе “Онікс” . З’яўляецца галоўным рэдактарам газеты «Lida Exit».

***Уладзімір Васько.*** Нарадзіўся ў в.Ліпчанка Шчучынскага раёна. скончыў Гарадзенскі падінстытут імя Я.Купалы. Працаваў дырэктарам сярэдней школы на Дзятлаўшчыне, у рэдакцыі Дзятлаўскай раённай газеты «Перамога», намеснікам рэдактара «Лідскай газеты». Аўтар кніг паэзіі «Прасветленнасць» і «На небасхілах берагоў». Друкаваўся з рэспубліканскім перыядычным друку.

***Валянцін Таўлай.*** Творчая біяграфія - з”ява многіх аднасінах незвычайная. Паэт прайшоў кароткі, змястоўны, яркі, але не лёгкі жыццёвы шлях. Як паэт ён сфармаваўся на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі.Ен напісаў не так многа. Калі яму было дзевятнаццаць год выйшаў першы верш (1928 г.). Каля сямі год ён прасядзеў у польскіх астрогах і некалька год быў на падпольнай рабоце на часова акупіраванай тэрыторыі.

В.Таўлай характарам свайго даравання - лірык. У сваёй працы не цураўся і такіх жанраў як нарыс, літаратурна-крытычны артыкул: «Катоўцы», «Ворагу не ўцячы ад расплаты», «Людзі вольнай Беларусі» В.Таўлай прайшоў свой творчы шлях, як мужны паэт-рэвалюцыянер, як адданы патрыёт.

***Людміла Шот.*** Нарадзілася 01.07.1951 годзе ў в.Копанькі Гарадзенскай вобласці. Закончыла Гарадзенскі Дзяржаўны Універсітэт імя Я. Купалы. па спецыяльнасці матэматык. Працуе выхавацелем у дзіцячым садку № 25 станцыі Ліда

***Ганна Рэлікоўская.*** Нарадзілася 8 ліпеня 1964 года ў вёсцы Кянці Лідскага раёна. Пасля васьмігадовай школы скончыла Ваўкавыскую педагагічную навучальню, а затым, завочна, гістарычны факультэт Беларусккага дзяржаўнага універсітэта. Працавала настаўніцай пачатковых класаў. Зараз - настаўніца гісторыі.Жыве ў Лідзе.

Друкавалася ў перыядычных выданнях.

***Ігар Воран.*** Нарадзіўся ў 1963 годзе. Працуе ў Лідскім Гарадскім палацы культуры. Таленавіты кампазітар. Аўтар шэрагу музычных тэкстаў, у тым ліку - на ўласныя паэтычныя творы. Дыпламант і лаўрэат некалькіх абласных і рэспубліканскіх конкурсаў. Адзін з вядучых выканаўцаў папулярных кампазіцый, саліст тэатра «Ліда-Мюзікл».

## ЗМЕСТ





**3- 5** ***СПАДЧЫНА. Пётр Калбыка.***

**Менск - сталіца майго краю. На дзень імянінаў. Успаміны**

**6-8** ***ГАСЦЁЎНЯ. Данута Бічэль.***

**Малая (аповесць).**

**9-11** ***ГАСЦЁЎНЯ. Вера Ляцецкая.***

**Мой славуты зямляк (апавяданне)**

**З Новым 2001 годам! Аб узросце. Праз трыццаць год.**

**12-15** ***ПАЭЗІЯ. Юры Карэйва.***

**Святла гаючага выток... Родная мова. Белая кніга. Вецер вярнуўся ў даліну... Нібы прачнуўся ты... Малітва да мамы. Памяці мамы.**

**16-18** ***НОВАЕ ІМЯ. Дзяніс Летуноўскі. ПАЭЗІЯ.***

**Нібы й няма зімы... Ні верніцтва кус, ні акр Вероны... У нябёсы гляджу з-пад рукі... Я пад шэраю зоркай самотна...**

**19-22** ***ПРОЗА. Віктар Бачароў.***

**Фотаздымак, што застаўся толькі ў памяці (апавяданне).**

***ПАЭЗІЯ. Віктар Бачароў.***

**Сусед. Калі ласка, выкінь тло... У полі. Лістапад.Лісталёт.Лістабой... За поўнач зімой я... Леаніду Вінніку...**

**23-26** ***ПАЭЗІЯ. Іван Гушчынскі***

**Вяртанне ў любы сэрцу край... Дома. Лета. Ліпень. Нядзеля. Там, за лугам, гарюнік грае... Ранак. Эскіз. Зорка мая. Аб усім... Сябру.**

**27-34** ***ПУБЛІЦЫСТЫКА. Аркадзь Мігдал.***

**Да партрэта Андрэя Сахарава.**

**35** ***НОВАЕ ІМЯ. Юля Гушчынская. ПАЭЗІЯ.***

**Зімовы настрой. Дзень добры, вясна!**

**36-38** ***НОВАЕ ІМЯ. Мікола Лазоўскі. ПАЭЗІЯ***

**Частушкі.**



## ЗМЕСТ


**9-40** *ПАЭЗІЯ. Міхась Мельнік.*

Ад лідскіх мурэў *Іду... Адзін... Дождж за акном імглісты... Дотык... У майго кахання... Помню выразна. Нават цяпер я... З табою не каханне - гора... Ты чаго сумуеш... Стаяць, нібыта здані... Роднае неба.*

**41-51** *БАЛАДЫ. Ян Чачот.*

*Песні пра даўніх ліцьвінаў*

**52-56** *ПАЭЗІЯ. Алесь Стадуб.*

Даруй. На аўтапрыпынку. Крыж. Вечнасць. Эпохі. Нязгода. Нейтраліст. Спакусы. Напісанага... Спрэчка. Запрог мяне і сёння... Перад намі бясконцая даль... Не наракай. Пасмы. Пацалунак. Ах святая твая прастата... З табой фармальна не чужыя... Горад. Прэм`ера.

**57-60** *НОВАЕ ІМЯ. Зміцер Шах. ПАЭЗІЯ.*

Я не хачу ў дурдом. Я веру. Я зорак з нябёс не здымаю... Жыве Беларусь! Кожны сваё атрымае. Бог адзін. Дэградацыя. Нерухомасць. Беларусь. Каралева бяссонае ночы.

**61-63** *ПРОЗА. Уладзімір Васько.*

Знаёмства (урывак з аповесці «Не згіне на зямлі чалавек»)

**64-66** *ПАЭЗІЯ. Валянцін Таўлай.*

Гэта ўсё - знаёмыя шляхі. Ідзе за годам год. Напрадвесні. Настаўніку. Малой сястрычцы.

**67-68** *ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЕТАК. Людміла Шот.*

Родная мова. Птушкай хачу я стаць... Свецяць на небе зорачкі...

**69** *ВЕРШЫ ДЛЯ ДЗЕТАК. Ганна Рэлікоўская.*

Бацькоўскае шчасце. Чысцюля. Чамучка.

**70-72** *СПЕЎНІК. Ігар Воран. БАГІНЯ*

**73-74** *НАШЫ АЎТАРЫ*



Прэзентацыя часопіса "Ад лідскіх муроў" № 4

